I-е спражэньне:

| | | | |
|---|---|---|---|
| няс-у | бяр-у | няс-ём(ом) | бяр-ом |
| няс-еш | бяр-эш | нес-яцё | бер-ацё |
| няс-е(ць) | бяр-э(ць) | няс-уць | бяр-уць |

II-е спражэньне:

| | | | |
|---|---|---|---|
| сядж-у | маўч-у | сядз-ім | маўч-ым |
| сядз-іш | маўч-ыш | сядз-іце | маўч-ыце |
| сядз-іць | маўч-ыць | сядз-яць | маўч-аць |

Тут трэба заўважыць толькі тое, што калі націск на канцы, дык ў 2-й асобе множнага ліку ў дзеясловах 1-га спражэньня пішацца ў канчатку **я** або **а** (*нес—яцё, бер—ацё*), як у першым складзе перад націскам.

Калі-ж націск не на канцы, то ў 1-м спражэньні маем **е** (пасьля зацьвярдзеўшых—а), а ў II-м—**і** або **ы**: *дума—еце, каж—аце; нос—іце, гавор—ыце* і т. д.

Калі націск прыходзіцца на канчатак, то адразу відаць, якое спражэньне: *ідзеш, сядзіш, арэш, маўчыш* і т. д. Тут ясна, што пісаць.

Але калі націск не прыпадае на канчак, то трэба глядзець, што стаіць у канчатку *неазначальнай* формы. Калі стаіць **і** або **ы**, то гэта дзеясловы 2-га спражэньня*), і ўсюды трэба пісаць **і** або **ы**, а ў 3-яй асобе множнага ліку—**я** або **а**: *маліць—моліш, моліць, молім, моліце, моляць; варыць — варыш, варыць, варым, варыце, вараць.* У праціўным разе гэта дзеяслоў 1-га спражэньня, і ўсюды трэба пісаць **е** (пасьля зацьвярдзеўшага — **а**), а ў 3-яй асобе множнага ліку **юць** або **уць**: *ведаць—ведаеш, ведае, ведаем, ведаеце, ведаюць; казаць — кажаш, кажа, кажам, кажаце, кажуць* і т. д.

2) Дзеяслоўныя прыметы і прыслоўі выводзяцца ад 3-яе асобы множнага ліку, дзеля чаго ў 1-м спражэньні канчаюцца на **учы, ючы**, а ў другім—на **ачы, ячы**: яны *кажуць, мыюць — кажучы, мыючы;* яны *гавораць, стаяць—гаворачы, стоячы.*

---

*) У дзеясловах — кры — ць, мы — ць, вы — ць, шы—ць ры — ць **ы** адносіцца да караню. Гэта дзеясловы I-га спражэньня: *крыеш, крые, крыем, крыеце, крыюць; мыеш, мые, мыем, мыеце, мыюць* і так далей.

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ 33.** Галоднаму асьцюкі ня колюцца. Гаворацъ, гамоняць, а ня ведаюць, дзе звоняць. I кормяць, і пояць, і вочы колюць. Глухі не дачуе, дык прыложыць. Вымету разком — вывезу вазком. Далей паложыш — бліжай возьмеш. Прочкі ходзяць без сарочкі. Калі не нажнём, то й не назьбіраем. Не ўрадзіў мак — перабуцзем і так. Калі не намалоцім, то й не накалоцім. Тады пабачым, як заплачам. Гаворыце, гамоніце, а ня ведаеццe, дзе звоняць. Што пасееце, то й сажняце. Калі гаспадар у карчме скача, то гаспадарка ў дварэ плача. Маеш статак, мусіш мець і ўпадак. Многа ложыш, да мала можаш. Ня там траціш, дзе купляеш, а там, дзе прадаеш. Праворны ўсюды пасьпее. Нуда бядзе не паможа. Каяньне позна ходзіць. Гоенае раны ня трэба дражніць. На чужы лоб шыбаючы, трэба й свой падставіць. Ой пайду я гукаючы, свае долі шукаючы, Каля вады ходзячы абмочышся. Пасеяўшы на ўсходу, не чакай харошага плоду. Ходзіць ціхенька, а думае ліхенька. Што там дзеецца — і бяжыць і грэецца? Браць — берацé, а не аддаяцé.

**Правіла 33.** 1) **Дзеясловы з зваротным займем СЯ.**

Некаторыя дзеясловы зрастаюцца з зваротным займем **ся**: *мыюся, смяюся*; *мыешся, чэшашся* і так далей. Пры справжэньні займя дакладаецца да дзеяслова: *чашуся, чэшашся*; *мыемся мыецеся* і т. д. Толькі ў 3-яй асобе адзіночн. і множн. ліку і ў неазнач. форме канчатак **цься** зьліваецца ў **цца** (ён *мыецца*, яны *мыюцца*, *мыцца*, замест —ён *мыецься*, яны *мыюцься мыцься*).

Але калі перад **ца** стаіць зычны, то пішацца адно **ц** (*здасца, ад'есца*).

**2) Формы загаднага ладу.**

а) Калі дзеяслоў *загаднага* ладу ў 2-й асобе адзіночн. ліку мае на канцы ь (*будзь*, *кінь*, *пасунься*), то ь застаецца і ў 1-ай і 2-ой асобе множнага ліку (*будзьма*, *кіньма*, *пасуньмася*; *будзьце*, *кіньце*, *пасуньцеся*). У праціўным разе ь ніколі ня пішацца (*рэжце*, *не саромся*).

Калі дзеяслоў *загаднага* ладу ў 2-ой асобе адзіночнага ліку канчаецца на і ці ы, то ў 1-ай ці 2-ой асобе множнага ліку і зьмяняецца на е, а ы — на э (*ідзі — ідзем*, *ідзеце*; *бяры — бярэм*, *бярэце*; *нясі — нясем*, *нясеце*).

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ 34.** Ня ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца. За мухай не наганяешся з абухам. Калі вядзецца, то й на шчэпку прадзецца, Ня хочацца, дык і няможацца. Калі топішся, то й за брытву хопішся. Язык Кіева дапытаецца. З кім пазнаешся, такім сам станешься. Не баішся ківа, пабаішся кія. Ня траціце марна часу! Ня верце, а прымерце. Падступецеся бліжэй, пакланецеся ніжэй. Хто ня ўмее, той заўсёды мыляецца. Проці вады ня сплывешся. Пытаючыся, дапытаешся. Не кажэце, шэры гусі, што я тут гарую, а скажэце, шэры гусі, што я тут паную. Пазычаны хлеб еж ды аглядайся' Кіньце стрэльбу й вуду, і я ў вас буду. Санлівага не дабудзішся, а лянівага не дашлецца. Ехаўшы бачком, ні з кім не зачэпішся. Век жывеш, век вучышся. Што ў лесе родзіцца — у двары згодзіцца. Адважна, брацьце, наперад ідзеце цьвёрдай і правай ступою, кожнаму ў вочы сьмела глядзеце, праўду нясеце з сабою!

---

## § 21. Правапіс прыслоўяў.

**Правіла 34.** Большасьць прыслоўяў — гэта акасьцянелыя формы зьменных часьцін мовы. Яны служаць у сказе акалічнасьцямі і звычайна пішуцца зьлітна з рознымі дапаможнымі словамі, напр.: *зранку, змалку, зьнячэўку, знадворку, здалёк, потроху, патрошкі, памалу, паціху, пабеларуску, палатыні, пазаўчора, пазалетась, удаўжкі, ушыркі, паасобку, неўзабаве, спадыспаду, надарэмна, наўцекі, аможа, нікуды, некалісь, няма, зраньня, аберуч, ніколі, некалі, нідзе* і г. далей.

Але часам трудна адрозьніць прыслоўя (акалічнасьці) ад дапаўненьня калі яно стаіць з прыймем, дык мы ня пэўны, *як* іх пісаць—зьлітна ці асобна.

Гэта бывае ў тых разох, калі слова можа быць і дапаўненьнем, і акалічнаьсцю, напр.: перапалохацца *на сьмерць* — убраньне *на сьмерць*, вучыць *на памяць*— браць сабе *на памяць*, *на што* дарма траціцца — *на што* паставіць лямпу, прыехаць *дадому*, вярнуцца *да хаты*, гаварыць *да рэчы* і так далей.

Дзеля таго, што ў мове йснуюць падобныя нявыразныя звароты, дык у правапісе прыслоўяў трэба кіравацца наступнымі увагамі:

1) Прыслоўі, вытвараныя з іменьняў, іменьняў лічэбных, займеньняў і прыметаў з прыйменьнямі, можна пісаць і зьлітна, і асобна, напр.: *збоку — з боку, насустрэчу—на сустрэчу, уніз—у ніз, уверх—у верх, зьнізу—з нізу, увосень—у восень, увесну—у весну, утрох—у трох, ушасьцёх—у шасьцёх, панашаму—па нашаму, спачатку—з пачатку, наадварот—на адварот* і так далей.

2) Зьлітна з прыйменьнямі пішуцца тыя словы, што без прыймя ня ўжываюцца або ўжываюцца вельмі рэдка, напр.: *здалёк, панямецку, памаленьку, насустрэч, бясконца, павоўчы, наўцекі, навыперадкі, удаўжкі, ушыркі, напавер, наўздагон, улетку, узімку, напярод, навотлеў, паасобку, напрыклад* і шмат іншых.

3) Прыслоўі з прыйменьнямі заўсёды пішуцца зьлітна, бо прыслоўе, як нязьменнае слова, ня можа мець пры сабе асобнага прыймя, напр.: *пазаўчора, пазаўтра, пазалетась, назаўсёды, напотым, надарэмна, зьнячэўку, нанава, завідна* і іншыя, таксама: *неўзабаве, аможа, таксама*, калі „таксама“ не выражае параўнаньня.

4) Трэба заўважыць правапіс прыслоўных зваротаў з націскам на прыймі: *поначы, подню, нанач, сосну, сосьмеху, насьмехі* (падняць на-сьмехі), *вобземлю, падчас замуж, зараз* (за раз забраць), *потым, раз-по-раз* *) *перш-на-перш, гады-ў-рады, калі-ні-калі, як-ні-як, дзе-ні-дзе, ледзьвя-ні-ледзьвя, ледзь-ледзь, чуць-чуць, больш-меньш, абы-дзе, абы-як.*

5) Правапіс канцавых гукаў у прыслоўях найчасьцей залежыць ад таго, як гэтыя прыслоўі вытвараны, г. зн., якую форму ад якой часьціны мовы яны становяць. Такім парадкам:

а) я ў канцы знаходзім у такіх прыслоўях: *наўмысьля, адумысьля, загадзя,* як *хаця, пасьля*, а таксама ў прыслоўях: *сёньня* (сёдня, сягодня), *зраньня* і інш., бо гэта формы роднага склону йменьняў, як *сёлета.*

б) Прыслоўі з неазначальнай часткай „ці“: *дзесьці, калісьці, некалісьці.*

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ 34-а.** Сонца *зранку* жарам пыша; ветрык лісьце чуць калыша, вее чуць паўз верх зямлі (Я. Кол). Што *ўвесну* ножкаю коп, то *ўзімку* ручкаю хоп. Гэта зроблена *наўмысьля.* Ішлі мы *памаленьку, вобмацкам*, каб *папацёмку* (*попацемку*) на што не наткнуцца. *Абы-як* прыйшло — лёгка й з рук сыйшло. *Увесну* (*у весну*) кораб вады, да коўш гразі, а *ў восень* коўш вады, да кораб гразі. Дзе недагляд, там *заўсёды* наклад. Грозен рак, да *з заду*

*) Усё гэта прыслоўі-акалічнасьці, бо ў беларускай мове дапаўненьне ніколі ня мае націску на прыйменьнях.

вочы. Папаў, як у нерат: *ні ў зад, ні ў перад.* Ні *адтуль,* ні *адсюль.* Не сядзі бокам: тут табе *не нарокам.* Ветрык *ледзь-ледзь* набяжыць. Пусты *улетку* нашы сёлы. *У восень* уся прырода пачынае заміраць. Падарожныя ад утомы *ледзь* перастаўлялі ногі. *Усьлед* (*у сьлед*) думкам неспакойна вецер падпявае. Усе пералётныя птушкі пакідаюць нас *назіму* ды ляцяць у вырай; застаюцца зімаваць толькі галкі, вароны, вераб'і, сарокі, цецярукі ды яшче некаторыя птушкі. Страхі найчасьцей здараюцца *ў ночы* (*уночы*). *У ночы* чалавек кепска бачыць, і тады баязьлівы чалавек самую пустую рэч прыймае за няма ведама што. Баба перапалохалася *на сьмерць* ды няпрытомна кінулася бегчы. *У канцы* зайшла гутарка пра розныя здарэньні. *Дзе-ні-дзе* садок зялёны. Часам я *ў ночы* (*уночы*) сны дзіўныя бачу. Жаданы час *нарэшце* настаў. Заўтра рана, яшчэ *досьвіту,* пойдуць яны ў дарогу. *Навет* (*нават*) свойскія качкі й гусі пачуваюць час выраю. І ўспомнілася мне казка, каторую *даўно-даўно* у часы шчасьлівага дзяцінства расказвала мне нябожчыца баба. А вясна *тым часам* рабіла сваё дзела. *Перш-на-перш,* мы суседзі. Сонца *ў дзень* распускае там косы свае, ночкай зоры глядзяць залатыя. Хоць раз да *наўскач.* Усяго *пашротку. Да дому* было тры вярсты. Мы прышлі *да дому* (*дадому*— дамоў) раніцай. *Сьпераду (з пераду)* грэе, а *ззаду* (*з заду*) вецер вее. Свой свайму *паняволі* брат. *Па няволі* ня плачуць. На яду мастак, а на работу *сяк-так. Затым* (*за тым*) сьляпы плача, што сьцежкі ня бача. *За тым* домам расьце дуб. *Здалёка* бачыць тваё вока. У яго і ўзімку лёду не дастанеш. *У ніз* (*уніз*) пайшоў. Ня войтава дачка, а *да рэчы* (*дарэчы*) гаворыць. *Упоперак* стала. *Калісьці* было, да быльлём

зарасло. *Ні калі* то было, *ні калі* то будзе. *Наўрад*, каб хлеба стала да каляд. *Пакуль* на гумне цэп, *патуль* на стале хлеб. Ой, відаць, на навальніцу *зранку* прыпякае! Сваю будову мурашкі пачынаюць *з нізу*. Хто з вас ня бачыў круглых кучак, падобных да горкі зямлі, насыпанай *наўмысьля?* Гэта — мурашнік. Мурашкі працуюць у дзень *бесьперастанку*.

## §. 22. Правапіс злучнікаў і дапаможных частак.

**Правіла 35.** 1) Злучнікі пішуцца зьлітна, напр.: *абы, або, ажно, ато, навет—нават, аднож, нібыта, нібы, альбо, каб, быццам, нашто, затым, затое, штоб, прынімсі, чымсі (чымся), прынамся.*

Складаныя злучнікі трэба адрозьніваць ад займеньняў з прыймем або дапаможнаю часткаю, бо займеньні пішуцца асобна, напр.: у сказах — *Затым* казак гладак, што пад'еў ды на-бак", „Кося, кося, *штоб* толькі злавіць удалося"—словы „затым", „штоб"—злучнікі і напісаны зьлітна. Але калі скажам: За *тым* домам быў вялікі сад", „*Што-б* ты даў за гэта?", то тут „за тым", „што-б" будуць займеньні — першы з прыймем „за", а другі з дапаможнаю часткаю „б" (бы), дзеля гэтага яны напісаны асобна, толькі „што-б" — з злучком, бо:

Для злучэньня дапаможных частак **бы, б, жа, ж** з папярэднім словам ужываецца **злучок**: добра было-бы, каму-б гэта даць, а мой-жа ты братка! Ды куды-ж ты, дуб зялёны, пахіляешся?

Калі-ж бы, **б** і **жа, ж** сходзяцца разам, то яны паміж сабою злучком ня злучаюцца: *калі-ж бы мне пайсьці, вось быў-бы ж ты рады* і г. д.

Для злучэньня складаных прыйменьняў **з-за, з-пад**— *з-за стала, з-пад лому* і г. д.

2) У падвойных прозьвішчах: Дунін-Марцінкевіч, Сьвятаполк-Мірскі, Дуж-Душэўскі, Рак-Міхайлоўскі.

3) Для злучэньня двух слоў, якія азначаюць тое самае паняцьце: узьвей-вецер, вецер-дуронік, шура-бура, шчыр-бор, хлеб-соль, рута-мята, хлопцы-малойцы, пацяклі-паплылі.

4) У складаных прыметах: сьнежна-белы, цёмна-сіні.

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ 34-б.** *Сьпісаць і заўважыць правапіс набраных курсівам слоў.*

*Ці-то* птушка тая кінула зярнё, *ці-то* занялося бураю яно? Сам ня ведаю, чым мілы, чым вы сэрцу любы, выхаванцы веку, сілы, маладыя дубы! *Чымся* мілым, *чымся* родным ад вас павявае, *аж* мне сэрца ў сьпеў лагодны ціха ахінае (*Я. Кол.*). *Які-б то* быў крук, *каб* выпусьціў з рук. *Чымсі* з благім квасам, *дык* лепей з вадою, *абы* не з бядою. Хоць з вадою, *абы* не з бядою. *За што* купіў, *за тое* й прадаў. І паху яго *штоб* ня было тут. *Каб-жа* то была праўда! *Каб* воля, *знашоў-бы* сабе поле. *Калі-ж бы* я што калі каму якое, а то я ніколі нікому нічога, — дык за што-ж мне тое? Каму за шутку прымаюць, а другому *за тое-ж* шкуру зьдзіраюць. *Касіць-бы* касіў, *калі-б* хто косу насіў. *Нібыта* была жывая вада. *Што-б* было з нашаю чайкай *калі-б* мы ехалі ў ёй подчас буры на моры? *Засьцілай-жа* тонкімі абрусамі цясовыя сталы, *засьцілай-жа*! *Адтаго* мы пагалелі, што соладка пілі й елі. *Ад таго* месца да места пяць вёрст. А *датаго*, ён яшчэ ня ў сталых гадох. *Тады-то* й было, як па вадзе плыло. Ці *ўсё-то* спажыць, што ў чужой клеці ляжыць! *Нашто* козамі сена травіць? *Нашто* ў клецьісьці па муку, калі торба вісіць на круку? У ёй і крупы драныя, і кускі ламаныя. Дай свае табакі, *ато* ад чужое нос баліць (прыказка).

## § 23. Правапіс складаных слоў.

**Правіла 36.** 1) У складаных словах злучальныя гукі **о—е** выступаюць выразна толькі пад націскам, напр.: *куродым, сыровадка*; не пад націскам знаходзім **а—я**, напр.: *сенакос, пустацьвет, ліхалецьце, вямлятрус* *) і г. далей.

2) Калі ў складаным слове націск прыпадае на другую частку слова, дык першая частка яго амаль-што заўсёды падлягае аканьню, — напр.: канавод, канавал, кажамяка, дабрадзей, чартапалох, галавасек, дравасек, чарваточына, чарнарабочы, навабранец, даўгавязы, касавокі, раўнаплечны, мнагакутны, вялікодны, гарбаносы, раўнапраўны, Ваявода і інш.

3) Не падлягаюць аканьню (яканьню) словы: Беларусь, беларускі, белабрысы, сьветлавокі, ветрагон, а такжа: мовазнаўства, прыродазнаўства, словавытварэньне і г. д. Наагул кажучы не паддаюцца аканьню відаць такія словы, якія ўвайшлі ў беларускую мову ня так даўно і дзеля гэтага на іх падае (адчуваецца) як быццам два націскі: мо́ва-знâўства, прыро́да-знâўства і г. д.

Словы, зложаныя з „поў“: *поўгода, поўчварта, поўпята, поўшасты* вярсты, *поўвасьма, поўсема, поўпудовік*, зажурыўся малойча ў *поўдарожкі едучы*; за маладога *поўзалатога*, але гэтыя словы можна пісаць з „а“, як — *палукашак, палудзень, полудзень, палудњавасьць*, дзе першая часьць мае форму „палу“, бо й „поў“ асобна рэдка ўжываецца.

4) Калі націск прыходзіцца на першую часьць складанага слова або на злучальны гук, то другая часьць падлягае аканьню (е застаецца, як заўсёды пасьля націску ў васнове), напр.: *поўнач, поўгада, поўдзень, дабранач, дабрыдзень, ягомасьць, імасьць, палукашак, пакацігара, сыро-вадка*, як „непагадзь“ (непагада).

---

*) „Зямляроб“ — слова не беларускае; гэта няўдалы украінскі пераклад расійскага слова „земледелец“; пабеларуску трэба казаць *рольнік* ад слова „ральля“ а таксама *рольніцтва* а не „зямляробства“ (расійск. „земледелс“).

## § 24. Перанос слова.

**Правіла 37.** Калі слова на пісьме не зьмяшчаецца ў адным радку, то часьць яго пераносіцца ў другі радок. У васнове правільнага пераносу слова з радку ў радок ляжыць правільны падзел слова на склады, г. значыць, слова дзеліцца на склады ды пераносяцца толькі цэлыя склады (*са-рока*, *саро-ка*, *вера-цяно*, *верацяно*, *вераця-но*). Адгэтуль відаць, што аднаскладовыя словы для пераносу ня дзеляцца: *дом*, *дзень*, *сьнег*, *стол*.

Пры гэтым трэба трымацца наступных правіл:

1) адна літара не пакідаецца і не пераносіцца. Напрыкад, нельга перанесьці так: *у-міраць*, *ста-ю*, *я-ма!*

2) з дзьвюх аднакіх зычных адна пакідаецца, а другая пераносіцца: *кон-на*, *закон-ны*, *дванац-цаць*, *збож-жа*, *суч-чо:*

Калі паміж дзьвюма зычнымі стаіць **ь**, то часьць слова з **ь** пакідаецца, а другая пераносіцца: *пісь-мо*, *паль-цы*, *жыць-цё*, *галь-лё*, *насень-не*. Так сама робіцца, калі ў сярэдзіне слова ёсьць **й** ці **ў**: *хвой-ка*, *зай-чык*, *лаў-ка*, *галоў-ка;*

4) злучэньне зычных разьбіваецца: *крас-ка*, *каз-ка*, *салод-кі*, *цёп-лы*, *леп-шы*, *друж-ба*, *абяр-нуць;* але **дз** і **дж** ніколі не разьбіваюцца, бо яны азначаюць адзін гук: *гарадз-кі*, *дож-джык*;

5) калі прыстаўка творыць склад, то яна аддзяляецца пры пераносе ад кораню: *на-ступны*, *на-ткнуцца*, *па-стаяць*, *пры-ступіцца*, *раз-бор*, але ня можна перанесьці так: *аб-ярнуць*, бо тут няправільны падзел на склады; трэба—*абяр-нуць*,

6) пры пераносе слова ставіцца, *знак пераносу* (-).

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ 35.** *Сьпісаць і падзяліць рыскамі (знакамі пераносу) словы так, каб паказаць, як іх можна перанесьці.*

Зямля, сонны, хворагт, мятла, лямпа, трынаццаты, пятніца, пяправўда, багацьце, каменны, сьмецьце,

сусед, акуркі, крыльле, капелька, абвестка, салаўінае гняздо, нельга, дошка, сястра, разьвязаць, увосень, капуста, ласкавы, пастух. Дожджык, дожджык, перастань! Апусьцела поле. Чырвоны дзедзя па жэрдцы едзе (запаленая лучына). Роўнае поле. Знайка бяжыць, а нязнайка ляжыць.

## § 25. Правапіс чужаземных слоў.

**Правіла 38.** *Словы чужаземныя*, узятыя з чужое мовы даўно і вядомыя шырокім народным масам, як свае родныя, падлягаюць нашаму правапісу і пішуцца так, як гэта чуваць у штадзенным ужытку: *літара, дарэктар, адукацыя, аканом або аконам, арганісты, паляруш, калідор, леварвэр, камісія, камітэт, сакратар, самінарысты* і г. д.

2) *Словы чужаземныя*, што ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дайшлі або дайшлі нядаўна, пішуцца так, як у тэй мове, адкуль яны запазычаны: *тэлеграф, тэлеграма, монолёг, тэатр, політычная экономія, дынастыя, партыя, інспектар, рэдактар**), *дыктаваць, дыктант, дыктоўка* і г. д.

3) Заместа падвойных зычных пішуцца простыя: *каса, маса, сума, тэлеграма, комунізм, Фінляндыя, Голяндыя*, а ня касса, масса, сумма, тэлеграмма, коммунізм, Фінляндыя, Гольляндыя і т. д. (Вынятак гл. п. 10).

4) Чужаземнае **L** передаецца мягкім **ль**, а ня цьвёрдым **л**: *монолёг, філёзофія, філёлёг, Лёндон*, як — лямпа, пляц, кляса, плястыр і т. д. (гл. п. 11).

5) Трэба заўважыць правапіс у такіх словах, як *нацыя, рацыя, рэдакцыя, Францыя, коопэрацыя*; *нацыянальны, рацыянальны, соцыяльны, рэдакцыйны, коопэрацыйны* і *коопэратыўны, партыя — партыйны, Курляндыя, Фінляндыя, Голяндыя* і т. д.

---

*) гл. п. 8.

6) Іменьні людзей пішуцца так, як гавораць у народзе: *Язэп, Якуб, Апанас, Лукаш, Тамаш, Грыгор, Мікола, Грышка, Тодар і Хвёдар, Кастусь і Канстантын, Юрка, Антось, Ігнась, Міхась, Міхал і Міхайла, Янка, Сьцёпка, Паўлюк; Ганна, Марыля і Марыся, Наста, Юста і Юстына, Зося, Алеся, Кася, Катарына і Кацярына, Аміля, Магда і Магдалена* і т. д.

7) Такія іменьні, як *арганісты, алтарысты, капіталісты, тэлеграфісты* і іншыя, што маюць устаўку **іст**, падобны формаю да прыметаў і зьмяняюцца ў родах і ліках. Напрыклад: *тэлеграфісты* (муж. р. адзіночн. ліку), *тэлеграфістыя, тэлеграфістых, тэлеграфістым, тэлеграфістымі* пры *тэлеграфістых* (множн. лік), як *добрыя, добрых, добрым* і т. д.

8) У некаторых словах ужо канчальна прынята частковае аканьне, напрыклад: *літаратура*, не *літэратура* (пад уплывам слова *літара*), *рэдактар, дырэктар, інспэктар*, а не *рэдактор, дырэктор, інспэктор* — под уплывам беларускіх *знахар*, пісар і падобн.

9) Некаторыя словы, нядаўна перанятыя ў народзе, так хутка і глыбока усвоіліся ў народнай мове, што і ў літаратурнай прынята іх пісаць з поўным аканьнем, напрыклад: *аратар* (оратар); *камісія, камітэт, камісар, вакзал, аказія.*

10) У некаторых словах застаецца падваеньне: Ганна, манна, ванна, мадонна, Будда, Мэкка...

11) Чужаземнае цьвёрдае **л** перадаецца цьвёрда: капітал, ідэал, інтэграл, адмірал, артыкул, матар'ял, пратакол, формула, канікулы, бібула, трыбунал, алтар і інш.

12) У чужаземных словах (у васнове) не дапускаецца *цеканьне* і *дзеканьне*, а дзеля таго: *дыплёмат, тыран, дынаміт, тып, тэатр, аптэка, тэлеграма, дэпо, студэнт* і г. д., а не — *дзінаміт, ціп, студзент* і г. д.

13) Не зьмягчаюцца звычайна й зычныя **з. с.** і **ц.**: *асыстэнт, магазын, пазыцыя, коопэрацыя* і г. д., але *фантазія, поэзія, аказія, Азія, Сібір* і інш.

14) Апрача слоў здаўных-даўна абеларушчаных— Пiлiп, Язэп, хунт, кахля, хваля, Хама, Хведар... — чужаземны гук ф перадаецца праз ф: форма, фронт, манiфэст, фамiлiя, фабрыка, Францыя i г. д.

Увага. Перадача чужаземных слоў блiзка ўва ўсiх славянскiх мовах выклiкала i выклiкае большыя цi меншыя труднасьцi.

Асаблiвую труднасьць для беларускай мовы вытварае аканьне. Трэба думаць, што заўсёды будзе тэндэнцыя (нахiл) i, проста, жыцьцёвая патрэба праводзiць аканьне i ў чужаземныя словы. Але правясьцi поўнае аканьне а, я на месцы о, э, е — трудна будзе дзеля дзьвёх прычын. Першае, што такое аканьне залiшне адрывала-б слова ад яго радаводу, напрыклад: тэляграма, гяаграфiя, балятрыстыка(!)... Другое i важнейшае, што гэта ня зусiм згодна i з народнай фонэтыкай, дзе маем звычайна на месцы ненацiскных э, е гукi ы, i або дужа зблiжаныя да iх: арышт, канцылярыя, тылiграма, тыятр (цiятр). Лiтары э i е азначаюць гукi не залiшне далёкiя ад такога жывога выгавару, каб нельга было iх пакiнуць. Праўда, яны нарушаюць правiла аб аканьнi, але затое... вучаць крыху чужаземных слоў, ужываных усiмi народамi сьвету.

Магчыма, што правядзецца аканьне адносна да о: прафэсар, маналёг (заместа профэсар, монолёг) i г. д. Але i тутака прыдзецца, вiдаць, прынамсi ў некаторых разох затрымаць о ненацiскное, напрыклад: антолёгiя (выбар вершаў— „красак“) i онтолёгiя („наука аб быцьцi“). Тутака вельмi характэрны прыклад такiх беларускiх слоў, як мовазнаўства, прыродазнаўства i падобныя (о не пад нацiскам!).

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ 36.** *Сьпiсаць i чужаземныя словы падчыркнуць.*

Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства. У Заходняй Беларусi ляжыць цэнтр Эўропы. Пачатковы курс палiтычнае эканомii. Лёндон — сталiца Англii. Нацыянальнае пытаньне. Студэнты Беларускага Пэдагогiчнага Iнстытуту разьехалiся на летнiя вакацыi. Мiлiтарызм i iмпэрыялiзм. Тэлеграфная

станцыя. Навуковы соцыялізм. Да вялікай Расійскай рэволюцыі на Беларусі была партыя Беларускае Соцыялістычнае Грамады. Курляндыя і Ліфляндыя — сумежныя паміж сабою. Клясавая барацьба. У Фінляндыі ёсьць прыгожы вадаспад Іматра. Сумаю называецца агульны лік пры складаньні. Прамыслова-капіталістычны грамадзянскі лад. Рэволюцыя і эволюцыя. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт.

II.

# § 26. Кароткі паўторны пытальнік.

## 1) *Пытаньні да тэксту.*

1) Якія бываюць падвойныя зычныя ў канцы іменьняў — мягкія? цьвёрдыя? Дайце прыклады на падвойныя зычныя — мягкія? цьвёрдыя? На месцы якога стараславянскага гукавога злучэньня зьявілася беларуская падвойнасьць зычных? Якія ёсьць мягкія падвойныя зычныя ў дзеяслоаух? (*зьзяць, льлецца*). Ці могуць быць падвойнымі ў канцы слоў **б, п, м, р?** Як пішуцца такія словы, як *баб'ё, куп'ё, ламʼё, надвор'е?* Як пішуцца такія словы, як *здароўе, салаўі, ую, уеш?*

2) У якіх прыметах бывае падвойнае **нн**? У якіх дзеясловах зьяўляеецца падвойнае **цц**? Калі ў такіх дзеясловах бывае адно **ц** (ца)? У якіх лічэбных іменьнях пішацца падвойнае **цц?** У якіх разох яшчэ зьяўляюцца падвойныя зычныя? Дайце прыклады.

3) Як вымаўляюцца злучэньні **тц, чц**? А як яны пішуцца? Як вымаўляецца злучэньне **дс?** Як гэтае злучэньне пішацца? Як вымаўляецца і пішацца злучэньне **тс?**

Як вымаўляюцца і пішуцца злучэньні **жс, зс?** Якія гукі зьнікаюць у злучэньнях **стн** і **здн?** Якія гукі вытвараюцца на месцы злучэньні **дц** і **цься?**

4) ад якіх часьцін мовы прыйменьні пішуцца асобна, і ў якіх разох?

Як пішуцца прыйменьні з дзеясловамі і прыслоўямі? Як пішуцца складаныя прыйменьні?

Калі прыймя канчаецца на цьвёрды зычны гук ды зьліваецца з словам, што пачынаецца гукам **і**, то які вытвараецца гук? Што робіцца ў такім разе з гукам **і**, калі прыймя канчаецца на галосны гук? Як злучаюцца прыймэньні з словам у іншых выпадках?

Што вы ведаеце а правапісе прыйменьняў што канчаюцца на **д** (*ад, над, перад, прад*)? Што трэба ведаць а правапісе такіх прыменьняў, што канчаюцца на **з?**

5) Калі не пішацца зьлітна, а калі асобна? Якія дзеясловы пішуцца зьлітна з прыслоўем **не**? Калі пішацца **не**, а калі пішацца **ні**?

6) Які маюць канчатак іменьні жаночага і ніякага роду адзіночн. ліку ў назоўным склоне пры мягкім складзе, калі націск ня прыходзіцца на канчатак? Якія іменьні ніякага роду складаюць вынятак з гэтага правіла? Які маюць канчатак такія іменьні ніякага роду ў родным склоне?

Якія іменьні ў родным склоне маюць канчатак **а** (**я**) — **у** (**ю**)? Калі у такіх разох пішацца **а** (**я**), а калі — **у**(**ю**). Якія іменьні становяць выняток з гэтага правіла?

Якія мае канчаткі месны склон адзіночн. ліку ўсіх радоў? Калі пішацца **і**, **е**, **ы**, **у**? Якія канчаткі давальнага й меснага склонаў іменьняў жаночага роду адзіночн. ліку?

У якіх іменьнях і ў якіх склонах гартанная аснова зьмягчаецца? Як гэтае зьмягчэньне адбываецца? Ці можа ў такіх разох гартанная аснова зьмягчацца ў мужчынскім родзе? у ніякім родзе?

Які канчатак іменьняў становіць вынятак з-пад аканьня? (*Канчатак творн. склону адзіночн. ліку* **ем**, *калі націск ня прыходзіцца на канчатак*).

7) Які маюць канчатак прыметы адзін. ліку ў назоўным склоне мужч. роду? жаноч. роду? ніякага роду? Які канчатак у прыметаў множнага ліку ў назоўным склоне?

Які канчатак прымет муж. роду адзіночн. ліку ў творным і месным склоне? Якія канчаткі прымет жаноч. роду адзіночн. ліку ў родным, вінавальн. склоне?

Які канчатак памяншальных і ласкальных прымет пасьля мягкага зычнага? пасьля зацьвярдзеўшага?

8) Як пішуцца складаныя лічэбныя іменьні? Якое слова становіць вынятак з гэтага правіла? Якія лічэбныя іменьні маюць падвойнае **цц**? Якія склонавыя канчаткі ў лічэбных іменьнях парадкавых? (*Тыя самыя, што ў прыметах*).

9) Як пішуцца склонавыя канчаткі займеньняў? (*Яны пішуцца па правапісу склонавых канчаткаў прымет*). У якіх займеньнях пішацца **не**, а ў якіх **ні**? Калі прыстаўкі **не**, **ні** пішуцца асобна ад займеньняў?

10) Якія галосныя ў канчатку дзеясловаў 1-га і 2-га спражэньня? Якая літара пішацца ў канчатку дзеяслова 1-га спражэньня пасьля зацьвярдзеўшага зычнага на месцы э, калі націск ня прыходзіцца на канчвтак?

Які маюць канчатак дзеясловы 1-га спражэньня цяпер. ч. 2-й асобы множн. ліку, калі дзеяслоў з націскам на канчатку? Бяз націску на канчатку? Які маюць канчатак дзеясловы 2-га спражэньня ў такой форме?

Якія канчаткі ў дзеяслоўных прыметах і прыслоўях?

Як пішуцца дзеясловы з зваротным займем **ся**? У якіх формах дзеяслова вытвараецца злучэньне **цца**? **ца**?

Калі ў дзеясловах загаднага ладу пішацца ў канчатку **ь**? Яяія бываюць канчаткі ў дзеясловах загадн. ладу множн. ліку 1-ай і 2-ой асобы? Як вытвараюцца гэтыя канчаткі?

*2) Пытаньні агульнага граматычнага зьместу.*

1) На якія дзьве групы можна падзяліць усе словы нашае мовы?

2) Што называецца *зьменнымі* словамі, або *зьменнымі* часьцінамі мовы?

3) Якая часьць слова называецца яго *канчаткам?*

4) Што такое *аснова* слова?

5) Якая часьць слова называецца *коранем?* Што называецца *прыстаўкай? устаўкай?* З якіх часьцін можа складацца слова?

6) На якія дзьве групы можна падзяліць усе зьменныя часьціны мовы?

7) Што называецца *скланеньнем? склонам?* Колькі ўсіх склонаў у беларускай мове? Пералічэце іх і назавеце пытаньні кожнага склону?

8) Што называецца *спражэньнем?* Колькі ўсіх спражэньняў? Як пазнаць, да якога спражэньня належыць дзеяслоў? Да якога спражэньня належаць дзеясловы *быць, даць, есьці?*

Колькі часоў у беларускай мове? Якія?

9) Якія часьціны мовы *скланяюцца? спрагаюцца?* Пералічэце *нязьменныя* часьціны мовы?

10) Калі ўжываецца *адзіночы* лік і калі ўжываецца *множны* лік? Калі ўжываецца *парны* лік?

11) Па якіх пытаньнях пазнаецца *род* зьменных часьцін мовы?

12) Што называецца імем (назоўным імем)? На якія пытаньні адказвае імя ў назоўным склоне? Якія *канчаткі* іменьняў у назоўным склоне *множн.* ліку? Якія іменьні называюцца *ўласнымі? агульнымі? зборнымі? агульнага роду?* З якой літары пішуцца іменьні ўласныя?

Што яшчэ можа азначаць імя, апрача *прадметаў?* (Прадметы: *харастео, спрыт, дабрата, адвага;* лік: *сотня, палавіна, тузін, капа;* дзеяньне: *разбой, малацьба, касьба. зьдзек;* стан: *сон, гультайства, цярпеньне*).

Назавеце некалькі іменьняў, што ўжываюцца ў адным толькі *множным* ліку? *адзіночным?*

Якія *канчаткі* маюць іменьні мужчын. роду адзіночн. ліку ў *клічным* склоне? Які канчатак *клічн.* склону *ў множн.* ліку? Ці мае *клічны* склон свае ўласьцівыя канчаткі, калі іменьні ніякага і жаноч. роду? Дайце прыклады, дзе-б *клічны* склон ужываўся ў значэньні *назоўнага?* (Паехаў мой *сынку* на вайну. Гэты *цьвеце* па ўсім сьвеце. Сівы *галубочку* сядзеў на дубочку. У нядзелю параненьку ва ўсе званы звоняць, а *панове-старастове* на работу гоняць).

У якіх разох іменьні множнага ліку маюць *вінавальны* склон *аднолькавы* з родным? У якіх разох вінавальны склон *адзіночн.* і *множч.* ліку падобен да назоўнага?

13) Як скланяюцца словы: *маці, пані?*

14) Калі пішацца ў канцы іменьні **ык,** а калі **ак**?

15) Што называецца *прыметай* (імем прыметным)? Чым розьніцца ад імя? Якія прыметы маюць *ступені прыраўнаваньня?* Якія бываюць ступені прыраўнаваньня? назавеце іх? Як называюцца прыметы, што азначаюць прыналежнасць? Як творыцца *найвышэйшая* ступень?

16) Што называецца *лічэбным імем?* На якія пытаньні можа адказваць лічэбнае імя? Як зьмяняюцца лічэбныя іменьні? Як скланяюцца лічэбныя іменьні *сорак і сто?*

Калі дробавыя лічэбныя іменьні, зложаныя з *поў,* канчаюцца на *а(я),* а калі на — *ы(і)?*

17) Якая часьціна мовы называецца *займем?* Якія часьціны мовы можа замяняць займя? Як дзеляцца займеньні Якое займя ня мае назоўнага склону?

18) Што называецца *дзеяеловам*? Назавеце *асабовыя займеньні* адзіночнага і множнага ліку?

Якая форма дзеяслова называецца *абвяшчалным ладам? загадным? умоўным?* На якое пытаньне адказвае *неазначальная* форма дзеяслова? Чаму гэтая форма называецца *неазначальнай?*

Якія яшчэ часы здараюцца ў беларускай мове, апрача цяперашняга, прошлага і будучага?

Што называецца *трываньнем*, і колькі бывае трываньняў? Які будучы час у закончанага трываньня?

Што называецца станам? Якое дзеяньне азначае *дзейны* стан? Як творыцца *залежны* стан? Якія дзеяньні азначае *сярэдні стан?* Якія дзеясловы ня маюць стану?

Якія часьціны мовы выводзяцда ад дзеяслова? Як творыцца *дезяслоўнае імя?* Ад якога *стану* выводзяцца, *дзеяслоўныя прыметы?* Якога часу бываюць дзеяслоўныя прыметы? (Найчасьцей—прошлага часу з устаўкамі **н**, **т**: *зроблены, забіты*). Ад якога стану выводзяцца *дзеяслоўныя прыслоўі?* Колькі мае часоў дзеяслоўнае прыслоўе? Якія *канчаткі* ў дзеяслоўнага прыслоўя *цяперашн.* і *прошлага* часу?

19) Што называецца *прыслоўем?* Чым служыць у сказе прыслоўе? Як дзеляцца прыслоўі паводле свайго значэньня? Якія прыслоўі маюць ступені прыраўнаваньня?

20) Што называецца *прыймем*? Якія бываюць прыйменьні? Якая розьніца паміж прыйменьнямі *для* і *дзеля*? Ці ёсьць розьніца паміж прыйменьнямі *к* і *да*? Ці бывае часьцінаю сказу прыймя? Калі прыймя становіцца *прыстаўкай*? Назавеце некалькі прыйменьняў, якія асобна ня ўжываюцца?

21) Што называецца *злучнікам?* Якія часьціны мовы ўжываюцца ў значэньні злучніка? Назавеце некалькі злучнікаў, выведзеных ад дзеясловаў?

22) Што называецца *клічнікам?* Як пішуцца складаныя клічнікі? Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца клічнікі? Што *выражаюць* сабою клічнікі?

# § 27. Лацініца.

Побач з гражданкаю (кірыліцай), хоць радзей, ужываецца ў беларускай мове лацініца.

Літарам лацініцы адпавядаюць наступныя літары гражданкі:

| | |
|---|---|
| A a | А а |
| B b | Б б |
| C c | Ц ц |
| Ć ć | Ць ць |
| Č č | Ч ч |
| D d | Д д |
| E e | Е е |
| F f | Ф ф |
| G g | Г г |
| H h | Г г |
| I i | І і |
| J j | Й й |
| K k | К к |
| L l | Ль ль |
| Ł ł | Л л |
| M m | М м |
| N n | Н н |
| Ń ń | Нь нь |
| O o | О о |
| P p | П п |
| R r | Р р |
| S s | С с |
| Ś ś | Сь сь |
| Š š | Ш ш |
| T t | Т т |
| U u | У у |
| Ŭ ŭ | Ў ў |
| V v | В в |
| Y y | Ы ы |
| Z z | З з |
| Ž ž | Ж ж |
| Ź ź | Зь зь |
| Ch ch | Х х |

**ПРАКТЫКАВАНЬНЕ 36-а.**

ГЫМН ВЯСЬНЕ.

Прыйшла вясна шумлівая
Руччамі загула;
Шуміць рака бурлівая:
Вясна, вясна прыйшла!

Прыйшла вясна пявучая
К нам птушак прывяла.
Нясецца песьнь жывучая:
Вясна, вясна прыйшла!

Прыйшла вясна цяністая
Лясом лісты дала.
Унікла ўюга мглістая.
Вясна, вясна прыйшла!

Прыйшла вясна цудоўная
І краскі прынясла
Пахучыя, чароўныя...
Вясна, вясна прыйшла!

*Я. Журба.*

HYMN VIAŚNIE.

Pryjšła viasna šumlivaja
Ruččami zahuła;
Šumić raka burlivaja:
Viasna, viasna pryjšła!

Pryjšła viasna piavučaja
K nam ptušak pryviała.
Niasiecca pieśń žyvučaja:
Viasna, viasna pryjšła!

Pryjšła viasna cianistaja
Lasom listy dała.
Unikła ŭjuha mhlistaja.
Viasna, viasna pryjšła!

Pryjšła viasna cudoŭnaja
I kraski pryniasła
Pachučyja, čaroŭnyja...
viasna, viasna pryjšła!

*J. Žurba.*

---

# Матар'ял для сьпісваньня й дыктовак.

## 1. ВУЧЫСЯ!

Вучыся, нябожа: вучэньне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй;
Што мучыць сягоньня, што думкі трывожыць,
Зьбяжыць і ня прыдзе ніколі.

Жаль згіне, як мара; ня будзеш няздарай,
Нідзе і ні ў чым не заблудзіш;
Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,
Спазнаеш, як цёмен ня будзеш.

Такая прынука, як праца й навука,
Ці-ж можа нам сіл не дадаці?
З такімі сябрамі, знай, будзе ня штука
І гора сваё зваяваці.

Крыўдзіцеляў зможаш, сьлед вечны праложыш
І к долі, і к волі, і к славе,
Адно ты прачніся, вучыся, як можаш,
Ці дома, ці на школьнай лаве.

Ўсе людзі значэньне пазналі вучэньня,
Адзін толькі ты ані дбаеш.
Цямней ты, нябожа, як ночка асеньня,
І шчасьце такое ты маеш!

*Я. Купала.*

## 2. ПРЫРОДА ГАТУЕЦЦА ДА СНУ.

Пакарочалі цёплыя летнія дзянькі. Перастала грэць яснае сонейка. Не падымаецца яно высока над зямлёю. Яго косы ня сьвецяць ужо так ясна. Яны ня грэюць і ня песьцяць ужо маткі-зямлі. Затуманілася неба. Няма таго дню, каб сівыя хмары ня плавалі над зямлёю. Пачаліся прымаразкі. Ліст на дрэвах пажоўк і асыпаўся, і згінулі кветкі, што ўбралі поле й луг. Ня шастаюць у траве конікі, ня гудуць каля вульляў пчолкі, не „таўкуць куцьці“ камары й мошкі. Птушкі адны за аднымі зьбіраюцца ў вялікую дарогу. Уся прырода пачынае заміраць.

Ужо й халодная восень прышла. Сонейка рэдка паказваецца з-за хмар; позна ўзыйдзе, нявысока падымаецца ды зноў схаваецца. Хмары ня сходзяць з неба. У паветры ціш. Усе хаваюцца ад холаду й дажджу. Змоўклі вясёлыя птушкі-пяюшкі. Ня відаць харошанькіх матылькоў. Усё пахавалася. Усё пакінула нас разам з сонейкам. Толькі высока над зямлёю чуваць маркотны крык жураўлёў. Борзда ляцяць яны з поўначы на поўдзень і сваім крыкам быццам шлюць нам сваё развітаньне.

## 3. VOSIEŃ.

Vosień chałodnaja, čornaja, chmuraja
Suniecca cicha, niačutna što dzień;
Chvarby naŭkoła pakłała panuryja,
Sonca chavaje za čornuju cień.
  Zbožža pažataje z nivaŭ pazvožana;
  Hołyja honi samotna lažać;
  Nieba daždlivaju chmaraj abłožana;
  Traŭkaj nia hraje svajoj sienažać.
Kvietki nia śvieciać hałoŭkami jasnymi;
Kuście biaz listu, biaź krasak stajać;
Z hetymi vosieni dniami biaskrasnymi
Ciažkija dumki na serca laciać.
  Volchi, rabiny, asiny z biarozami
  Listam pažoŭkłym tužliwa šumiać:
  „Chutka nadyduć zaviei z marozami,
  vietry z śniahami iznoŭ nalaciać“.
Tolki vysokija chvoi ihlistyja
Viečna-zialony svoj kažuć ubor;
Dniami zimovymi ciomna-imhlistyja
Buduć čarnieć navokał nauzhor.

Zimu pačuŭšy, miadźviedź niepakoicca,
Chodzić pa lesie, šukaje biarłoh;
Chmurny i złosny, pakul supakoicca,
Horš na skacinku, na ludzi naloh.

Husi i kački hurtami źbirajucca:
Chutka na poŭdzień saŭsim palaciać;
Cheŭra za cheŭraj na rečcy źmianiajecca;
Zranku kryčać, na vadzie łapaciać.

*A. Harun.*

## 4. ВОСЕНЬ.

Луг даўно скошаны. Дзе ўлетку калыхалася зялёная трава і блішчалі кветкі, там цяпер пуста, адны толькі дзябёлыя стагі стаяць па грудочках, як вежы. Маладзенькая травіца-атава блішчыць на сонцы. Ёй ужо ня вырасьці да старое. Буслы даўно пазьляталі з гнёзд ды ходзяць чародамі па лузе або кружацца высока-высока ў небе, усё роўна як радзяцца перад далёкай дарогай.

Жыта на полі зжата й зьвезена: авёс і ячмень— сабраны, толькі дзе-ні-дзе жаўцее палоска позьняга аўсу ці ячменю, ды пачарнелыя лапінкі грэчкі чакаюць сярпа. Картаплянік на картоплі павяў і апусьціў сухое лісьце, адны цыбуры тырчаць, як палкі. Глуха й нудна стала на полі. Ужо ня чуваць спакойнай гаворкі ціхага ветру з палоскамі збожжа, толькі йржышча гаворыць, што тут красаваліся пасевы. Ужо не трапечуцца ў небе жаваранкі з мілымі песьнямі. Прашла вясёлая цара лета! Усё адцьвіло, адкрасавала.

Ціха й глуха стала ў лесе. Птушкі перасталі сьпяваць. Лісьце на дрэвах пасохла ды патроху асыпаецца на дол.

Сонца ня грэе так цёпла, як бывала ўлетку. Яно ўсё ніжэй і ніжэй ходзіць па небе. Неба часьцей і часьцей засьцілаецца хмарамі. Туманы закрываюць ад вачэй белы сьвет. Дробны дожджык імжыць, як праз сіта. Нудна й няпрытульна выглядае ўсё ў восені!

## 5. MIACIELICA.

Sivyja chmary niespakojna zabiehali pa niebie, jak vahar pa vadzie. Uźniaŭsia viecier. Husta j praciažna zašumieŭ stary les. A chmary biahuć, ścielucca nižej, hładčej, raŭniej dy ablahajuć usio nieba. Pasypaŭsia śnieh miljonami kamiačkoŭ drobnaha miahkaha puchu. Zakružylisia jany chałodnym pyłam. A viecier krapčeje, uździraje śnieh źnizu ŭ poli, padymaje jaho ŭhoru dy krucić słupami, i biełу vichar śniežnaha pyłu daloka pramčycca pa poli. Śvišča viecier i ŭsio, što ni sustrenie, absypaje chałodnym śnieham. Nieba miašajecca z ziamloju. Usiudy, kudy ni hlań, biel i biel, i nia moža voka akinuć hetu biełuju ścianu. A jak zalivajecca viecier u poli! Švišča jon u płatoch, uździraje strechi na chatach, nalataje na hołyja adzinokija drevy, irvie kožnuju ich halinku, kožny sučok, i dryžyć usim svaim ciełam bednaje dreva

Što za pieśni śpiavaješ ty, viecier? Mnoha nudy j žalu ŭ tvaich niamych pieśniach! Addajucca jany ŭ sercy dzikim razhułam niastrymanaje złości, nudnym stohnam pakutnika-biedaka, horkimi ślazami, niasucieśnym žalem niaščasnaje maci nad mahiłaj svajho dziciaci, cichaju skarhaj doli čałaviečaj! Ab čym-ža ty płačaš, svabodny vietru? Mała prastoru tvaim šyrokim kryllam?!

Borzda nasypajucca hurby — śniehavyja kurhany. Hinie daroha, usio źlivajecca ŭ adnu biełuju pialonku. Strach napadaje na padarožnaha, jakoha zachopić bura ŭ darozie.

## 6. ЛЕС ЗІМОЮ.

Зімою лес, як сірата: ціхі, нудны, маркотны. Птушкі яго пакінулі. Асталося зусім мала, і тыя толькі дзе-ні-дзе чырыкаюць. Шмат зьвяроў пахавалася на ўсю зіму.

Мядзьведзь у бярлогу залез, барсук у нару закапаўся, вожык пад вываратам пад мох схаваўся. І ляжаць яны там цэлую зіму, нічога ня еўшы, бо і есьці няма чаго. Мядзьведзь не дастае збожжа, барсук ня выкапае жукоў, вожык ня зловіць мышы, бо і мышы зімою рэдка з норак вылазяць.

Лось, козы, дзікія сьвіньні ня бегаюць так шпарка, як вясною: сьнегу многа — цяжка і ў ногі рэжа. Толькі сярдзіты воўк бродзіць па сьнезе, шукае сабе пажывы, ды галодны ліс бегае па маладнякох пры полі, каб злавіць зайца.

Усе дрэвы, на якіх бывае лісьце, стаяць цяпер голыя. Часамі толькі ўбачыш паміж разгатых асін, дубоў ці алешын якую-небудзь дзеравяку з жоўтым лісьцем. Гэта лісьце не пасьпела апасьці ў восень, пакуль дрэва засохла. Больш яно не расьцьвіце. Лес шмат парадзеў, відаць у лесе далёка. Сьнег пазакрываў усе малыя кусьцікі, усю траву і зямлю.

Лісьця ня трэба зімою на дрэвах. Жыцьцё ўсё замірае. Рост дрэў прыпыняецца. Каб лісьці, непатрэбныя зімою, ня скідаліся з дрэў, то наляпілася-б многа сьнегу ў гальлі, і сьнег паламаў-бы галіны. Так часта бывае з хвоямі. Хоць на хвоі лісьце вузкае, але ў цёплую пагоду сьнег засядае. Наваліцца многа сьнегу, і слабыя маладыя хвойкі не вытры-

моўваюць і ломяцца. У яліны гальлё з лісьцем яшчэ гусьцейшае, як у хвоі. Затое лапы яе пагінастыя і служаць уніз. Сьнег зламаць іх ня можа. Яліна зімою ў лесе, як маці сярод дрэў. У яе густым, пакрытым зьверху сьнегам гальлі і вавёрка хаваецца, і маленькія птушкі начуюць, і заяц у мяцеліцу туліцца пад яе галінамі, нават і большыя зьвяры хаваюцца ў ельніку ад завірухі. Усё жывое шукае зацішку. Холадам у бары рэдка стрэнеш зьвера ці птушку.

## 7. JAK KAŠULA Ŭ POLI VYRASŁA.

Uhledzieła Anielka, jak baćka poŭnymi žmieniami rassypaje na poli drobnyja, bliskučyja ziarniatki, i papytałasia:

— Našto heta, tata, rassypaješ ziarniatki?

— Sieju lon, kab vyrasła tabie j Hryšku kašulka, — adkazaŭ baćka.

Zadŭmałasia Anielka, bo nikoli nia bačyła, kab kašuli ŭ poli raśli.

Praz dva tydni pole pakryłasia zialonaj šaŭkowaj travicaj, a Anielka padumała:

„Kab heta mnie takuju charošuju zialonuju kašulku!“

Potym dziaŭčaty prychodzili raz i druhi pałoć lon i kožny raz kazali Anielcy:

— Pryhožaja budzie tabie kašulka!

Prašło jašče kolki času, i ŭsia niva pakryłasia charošańkimi sinieńkimi krasačkami. Anielka padumała:

— U našaha Hryški takija sinieńkija vočki, ale hetakich kašulek ja nia bačyła.

Kali krasački asypalisia, na ich miescy pakazalisia maleńkija zialonieńkija hałoŭki. A jak pažoŭkli hałoŭki, to jznoŭ pryšli dziaŭčaty, pavyryvali lon z kareńniem, pazviazvali jaho

ŭ snapki i pastavili na soncy, kab vysach. Kali lon vysach, hałoŭki ababili žanki pranikami, a sałomu pasłali ŭ poli na papary, kab jana vymakła na daždžy

Była ŭžo vosień. Išli daždžy. Stała ściudziona. Sumna pazirała Anielka na dvor i dumała, što ŭžo nia budzie kašulki. Praz dva tydni baćka pryvioz z pola lon, paviazany ŭ pučočki. Anielka vielmi ździviłasia, kali baćka skažaŭ:

— Charošaja budzie ŭ ciabie kašulka!

Napalili žanki horača łaźniu i pastavili ŭ łaźni pučki lonu sušycca. Potym sabralisia dziaŭčaty i maładzicy, pryniaśli z saboju ciorlicy i davaj ciorci lon. Na ziamlu sypałasia kastryca, a ŭ rukach astavalisia doŭhija ručajki, jak rusyja dziavockija kosy. Pazirała Anielka i dziviłasia što heta budzie.

Pryšła zima. Nastali doŭhija zimovyja viečary. Pašli dziaŭčaty na viačorki z kudzielaju i pačali praści z lonu nitki.

„Heta tolki nitki, a dzie-ž kašulka?" dumała Anielka. Naprała matka adkidzič, pieraviła jaho ŭ pačynak dy pałažyła na belku sušycca, a kładučy skazała:

— Słaŭnaja ŭ ciabie, dačuška, budzie kašulka.

Na pradvieśni pastavili krosny. Zabiehaŭ čaŭnok, zastukała biorda ŭ nabilnicy, i tady ŭžo maleńkaja Anielka sama pabačyła, što z nitak papraŭdzie tčecca pałatno.

Pałatna natkali piatnaccać hubak, parezali jaho na doŭhija pałotny i pasłali na bierazi kala rečki bialicca. Prychodzili dziaŭčaty z dajonkami i zbankami, brali z rečki vodu dy palivali pałotny. Palivała j Anielka, bo ŭžo viedała, jak kašulka ŭ poli vyrasła. Chutka pałotny stali biełyja, jak śnieh. Tady ich sabrali, skrucili ŭ suvoi j złažyli ŭ kuby j skryni. A k novamu hodu matka pašyła Anielcy i Hryšku novyja bieleńkija kašulki.

Zrabiecie kolekcyju z lonu.

## 8. SŁUCKIJA TKAČYCHI.

Ad rodnych niŭ, ad rodnaj chaty
U panski dvor dziela krasy
Jany, biazdolnyja, uziaty
Tkać załatyja pajasy.
I ciaham doŭhija časiny,
Dziavočyja zabyŭšy sny,
Svaje šyrokija tkaniny
Na ład persydzki tkuć jany.
A za ścianoj śmiajecca pole,
Zijaje nieba z-za vakna —
I dumki mknucca mimavoli
Tudy, dzie raśćviła viasna,
Dzie blišča zbožža ŭ jasnaj dali,
Siniejuć miła vasilki.
Chałodnym srebram źziajuć chvali
Miž hor lijučajsia raki.
Ciamnieje kraj zubčaty boru...
I tče, zabyŭšysia, ruka,
Zamiest persydzkaha uzoru,
Ćviatok radzimy vasilka.

*M. Bahdaanovič.*

## 9. ЯК ЗДАБЫВАЕЦЦА КАМЕННЫ ВУГАЛЬ.

Вельмі рэдка бывае, каб каменны вугаль ляжаў блізка пад глебаю. Зьверху ён пакрыты тоўстым пластом гліны і пяску, і таму здабываць яго прыходзіцца глыбока пад зямлёю. Дзеля гэтага рыюць глыбокія калодзезі, якія называюцца шахтамі. Ад галоўнай шахты прарываюць у розныя бакі цэлы рад ходаў. Некаторыя з іх нават асьвятляюцца

чынка, чыя ты?“ бедны тут пытае. „Дзядзіна я доля“, тая адмаўляе. Пытаецца воўк у сабакі: „Скажы, сабака: адкуль вы сабе яду бераце?“ — „Людзі нам даюць“, адказаў сабака.—„Мусіць, вы цяжкую службу людзям служыце?“ зноў пытае воўк. „Не, наша служба ня цяжкая; наша дзела ўночы двор вартаваць“. — Сёстры плачуць горка, буйнымі сьлязамі: „Ой, Грыгор, Грыгорка! што зрабіў ты з намі?!“ Пастух-аўчар скруціў дудачку з каліны ды йграе: „Ой памалу, памалу, пастушок, іграй, майго сэрцайка не ўражай!“ — „Што ты робіш?“ спытаў бацька ў сына. „Скрыпачку“, адказаў сын. „Эх, брат!“ кажа адзін зайчык другому: „ёсьць-жа на сьвеце стварэньні, што й нас баяцца“. — „Памажы мне, кумка, ячмень зьвязаць!“ — „Калі-ж, кумка, жыбулькі надта колюцца“. — „Дай мне, кумка, мукі на аладкі!“ — „Пайшла я, кумка, на муку, а жыбулька за руку“. — Угледзеў казёл лісіцу ў калодзезі ды пытае: „А што ты там, кумка, робіш?“ — „Сапачываю, кумок“, салодка адказала лісіца. — Што просіце, дзядзька, за гэтую карову? — Я яе і за тысячу не аддам. — Чаму? — Бо яна не мая, а вунь таго гаспадара, што каля крамы стаіць. —

— Тата, я злавіў мядзьведзя!

— Дык вядзі яго сюды.

— Калі-ж ня йдзе!

— Дык дзяржы яго.

— Калі-ж ня дзержыцца!

— Дык пусьці яго.

— Калі-ж ня пускаецца!

## § 12. Кругасказ.

**Правіла 13.** 1) Кругасказ (пэрыод) звычайна складаецца з дзьвюх часьцін — з *павышэньня* і *паніжэньня*. Павышэньне ад паніжэньня найчасьцей аддзяляецца або **двукроп'ем,** або **коскай з прыцяжнікамі.** Напрыклад:

№ 1)

Ці коска зазвоніць ў лугох раніцою,
Ці песьню дзяўча запяе,
Ці конік ў дарозе праскочыць трусцою,
Ці вецер ў палёх зазлуе,
Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці грукне пад лесам пярун, —
*Ўсё водгук знаходзіць ў бязьмежных абшарах,*
*Ўсіх дакранаецца струн.*

*Я. Колас.*

2) Па ліку параўнальных думак кругасказы бываюць: а) *двухсустаўныя*, б) *трохсустаўныя*, в) *чатырохсустаўныя* і т. д. Суставы кругасказу аддзяляюцца адзін ад другога або *коскай* або *пунктам з коскай* у залежнасьці ад іх пашыранасьці. Напрыклад, у кругасказе № 1 суставы аддзелены адзін ад другога коскамі, а ў наступным кругасказе больш пашыраныя суставы аддзелены *пунктам з коскай*, а рэшта — коскай:

№ 2)

Калі асеньнія навіны
Зьмянілі сад, калі з бяроз
Рваў лісьце вецер, а мароз,
Наліўшы ягады-рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі прэлых лісьцяў слой;

Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага гальля чарнелі,
І грозны вечару пажар
Палаў між бура-сівых хмар;
Калі асеньні вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш залезны дах, —
Тады да лета Вараніка
Ад нас зьнікала ў інстытут.

*М. Багдановіч.*

№ 3)

Калі-ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх сьвет праз небасхіл,
І улягаўся вулак пыл, —
Мы ўсе пяялі каля хаты,
І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песьняй сьціхшы двор.

*М. Багдановіч.*

№ 4)

Ці куры ў хаце сваім дурам
Падымуць часам шурум-бурум;
Ці абярэцца з іх якая,
Зьнячэўку пеўнем засьпявае
Для большай важнасьці, вагі;
Ці тут крумкач разок, другі
У небе крумкне смутна, глуха;
Ці ў юшках песьню завіруха
Зацягне жаласна, нудліва;
Ці загугукае страхліва

Злы гэты дух — сава-начніца
Ў кустох альховых над крыніцай,
Гугукне так, што сэрца ные,
Што аж сабака й той завые, —
Ўсё гэта — дрэннае злучэньне,
Праявы страшнай абвяшчэньне.
*Я. Колас.*

## § 13. Статут знакаў прыпынку, або абагульненьне правіл аб ужываньні знакаў прыпынку.

### 1. Коска.

Коска ставіцца:

Для выдзяленьня *прыдатка* (§ 2), *зваротка* (§ 3), *пабочных слоў і сказаў* (§ 5 і § 10), пасьля выклічнікаў (§ 4), для выдзяленьня *дапаўненьня з прыйменьнямі* апроч (апрача), заместа (Апроч ластавак, тут вадзіліся яшчэ шпакі. Заместа мяне, паслалі заграніцу майго брата), перад злучнікамі але, ды (=але), і, калі імі пачынаецца новы сказ (*Жыта злажылі, ды не надоўга. Сонца ирыгрэе, і сьнег растане*), для выдзяленьня падобных часьцін у *зьлітым сказе* (§ 6), залежных, або даданых, сказаў (§ 8) *злучаных сказаў* (§7), пры паўтарэньні якога-небудзь слова (Гэта быў *стары, стары* лес. *Ідзеш, ідзеш* ды спынішся супачыць), для аддзяленьня якой-небудзь даданай часьціны сказу, выражанай некалькімі словамі (Рабенькая круглая кароўка, *увелькі з вераб'інае вочка*, паўзла па гладзенькай былінцы), пасьля прыслоўяў **але, так, не,** пастаўленых перад сказамі (§ 4, увага), для аддзяленьня часьцін кругасказу (§ 12, ²).

**Задачка 1.** *У наступных прыкладах аб'ясьніць, чаму пастаўлены коскі.*

Прыйдзі пад вечар ты на поле ды палюбуйся ім, саколе! Усход жыве, гарыць, палае, слупы-праменьні

падымае. *Я. Кол.* Прывет табе, жыцьцё на волі! Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі; там няма ні нуды, ні клапот. Па-над белым пухам вішань, быццам сіні аганёк, б'ецца-ўецца шпаркі, лёгкі сінякрылы матылёк. Гэй, варушэцеся, коні панурыя! Ад родных ніў, ад роднай хаты, у панскі двор дзеля красы яны, бяздольныя, узяты ткаць залатыя паясы. І тчэ забыўшыся рука, заміж пэрсідзкага узору, цьвяток радзімы васілька. І цягам доўгія часіны, дзявочыя забыўшы сны, свае шырокія тканіны на лад пэрсідзкі ткуць яны. Мы сквапна цягнемся к старым поэтам, каб хоць душой у прошлым патануць. *М. Багд.* Хоць усім братом ня соладка жылося, але меншаму брату выпала самая горшая доля. *Т. Гушча.* На прыгуменьні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам. *Я. Кол.* Хоць віхры шалеюць, хоць песьні нямеюць, хоць страшна замучаны ты, — за добрую справу, за шчасьце і славу душу вырывай з цемнаты! *Я Куп.* Лес гудзе, дрыжаць галіны, стогне бор хваёвы; глуха шэпчуць верхавіны, гнуць свае галовы. *Я. Кол.* Не, не здаволіш чалавека, і будзе вечны ён калека. *Я. Кол.*

### 2. Двукроп'е.

Двукроп'е ставіцца:

У *зьлітым* сказе перад пералічэньнем (§ 6, 7), перад *прыдаткам*-пералічэньнем (§ 2), перад *чужаслоўем* (§ 11), у злучаных сказах, калі адзін сказ паясьняе другі (§ 7), у злучэньні *супрацiўным і вінавальным*, калі прапушчаны злучнікі (§ 7), калі прапушчан параўнальны злучнік (§ 7) і, наагул, *двукроп'е* блізка тое самае, што слова *значыць* (Прышла пара касавіцы: трэба прымацца за касьбу).

### 3. працяжнік і злучок.

Працяжнік ставіцца:

Пасьля пералічэньня, дзе прапушчана нейкая слова

(*Вясна, лета, восень і зіма — поры году*), калі хочуць затрымаць увагу (*Гляньце—нехта едзе. Падсадзі — сарву я грушку*), заместа слова *ёсьць* у сустаўным сказьніку (*Чужая сіла — асіна. Лішняя нітка — палатну завада*), у сказе, якi служыць адказам на пытаньне (*А хіба-ж там ён? — Там.*) Пасьля пераліченьня падобных часьцін у *зьлітым* сказе (§ 6), пры выдзяленьні некаторых *прыдаткаў* (§ 2), для выдзяленьня *пабочнага сказу* (§ 10), пры хуткім пераходзе ад аднаго дзеяньня да другога (§ 7, 5), калі прапушчаны прычынны, супраціўны або ўмоўны злучнік (§ 8, 4), пры аддзяленьні мовы аднае асобы ад другой (§ 11, 5), у кругасказе (§ 12) і, наагул, калі прапускаецца якое-небудзь слова. (*Поле — жоўты пясок*).

Злучок ставіцца:

Калі слова паўтараецца для памацненьня (*Чуць-чуць* ліпіць), пры складаных прыметах (*сьнежна-белы, цёмна-сіні*), у складаных прыйменьнях (*пад-над, з-за, з-пад*; § 14 4), для злучэньня частак **бы(б), жа(ж)** з папярэднім словам. (*Рад-бы даць, каму-б гета даць. А мой-жа ты саколік! Да куды-ж ты, дуб зялёны, пахінаешся?*), у падвойных прозьвішчах (*Дунін-Марцінкевіч, Лапко-Лабаноўскі, Рак-Міхалоўскі*).

### 4. двукосьсе.

Двукосьсем аддзяляецца:

Чужаслоўе (§ 11), прыдатак (§ 2), *слова*, на якое зварачаецца асаблівая ўвага або якое ўжываецца ў пераносным, няўласным значэньні. (*Прызнаюся, я не спадзяваўся такой „далікатнасьці“ ад мужыка. З мёду даўней варылі моцнае піво — „мёд“. Па ваду йдзе — „дзень-добры“ дае*).

### 5. Дужкі.

Дужкі ставяцца:

Для выдзяленьня *пабочных* сказаў (§ 10), навуковых тэрмінаў, некаторых паясьняльных слоў, правінцыялізмаў. (*Кажуць, што дрыгвічы называліся так дзеля таго, што жылі па нізкіх, балотных мясцох* (*дрыгвах*). *Пакланяліся нашыя продкі грому* (*Пяруну*), *сонцу* (*Дажбогу*) *і іншым зьявам прыроды. Ён цеміў* (*разумеў*), *што гэта ня так*)

**Задачка 2.** *Аб'ясьніць знакі прыпынку.*

Даўней былі „путныя баяры“, каторыя павінны былі правіць дарогі. На высокай гарэ, дзе ніхто не арэ, толькі птушка-арол дзе садзіцца, — там узбудуюўзьвяду, нізі ўсёй на віду, мураваную вежу-званіцу *Я. Куп.* Ясна-сьвяточна ў кра̀сы ўбярыся, птушкаю вольнай сягні ў вышыню, з сонцам злучыся, зоркай іскрыся, славай акрыйся — выйдзі спаткаці вясну! *Я. Куп.* Неба, сонца, месяц, зоры, людзі, пушча, уся зямля — усё да сэрца штось гаворыць, усюды бачу моц жыцьця *Я. Куп.* На прыгуменьні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам, а пад паветкай ўсе прылады: вазок, калёсы, панарады, старыя сані, восі, колы і вульляў некалькі на пчолы, яшчэ няскончаных; судзінка, стары цаберак, паўасьмінка, і розны хлам і лом валяўся, ад сонца, дожджыку хаваўся. *Я Кол.* Усё прачнулась прад вачыма беднае кабеты: маладыя дні дзяціны, дзявочыя леты, радасьць жыцьця і нягоды, сваркі, трасяніна — усё, чым жыцьце спатыкае кепскую часіну, усё прыпомнілась старэнькай. *Я. Кол.* Галоднаму і пушнінка — малінка. Шчырая праца — мазалёвая. „Што-то будзе, што-то будзе?“ у межах шэпча жыта. Спаленай нівы жаданьне ня збыта — міма хмурынка прайшла. На дварэ — паленьне, трэскі, куча сьметніку ляжыць. Бедна тут жыве народ, а працуе — льлецца пот. Беларускія баяры (з часам яны сталі называцца шляхтаю) стыкаліся з польскімі магнатамі: ім падабаліся прывілеі і правы польскае шляхты. Чорная Русь (цяперашняя Горадзеншчына) у свой час была асобным князёўствам. Гэта толькі гутарка адна — „прыехаў“: проста забралі сюды — і ўсё, бо дома ня было дзе дзецца.

Бывала, заміж „благодарю“, скажа Міхась „дзякуй“ ды аж пачырванее ад сораму. Еўка ніколі не хадзіла на сяло, бо дзеці дражнілі яе „рыжая“. *М. Кудз.* Яшчэ некалькі часу — і вёска зусім засынае. Болей навукі — меней страху. Але не-не, ды смутна стане. Сяк-так прымайстраваўся наш падарожны каля печы *Я. Кол.* „Я табе лялек нараблю і „катка“ запяю“, казала Марылька брату. А жнейкі жнуць, іх твар палае, іх пражыць, сушыць смага тая, якую трудна ім здаволіць, якая толькі „піць! піць!“ моліць. *Я Кол.*

### 6. Клічнік і пытальнік.

Пытальнік ставіцца:

Пасьля *простага* пытаньня ў пытальным сказе (§ 1,) пасьля *ўскоснага* пытаньня ў тым выпадку, калі перад ускосным пытаньнем стаіць двукроп'е. *Скажы мне, дубе: чаму ты ня гнешся перад бураю? Скажы мне, дубе: адкуль твая сіла? Скажы мне, браце: чаму я такая слабая?*)

Увага Некаторыя дапаўняльныя сказы прымаюць форму пытальных; гэта форма называецца *ўскосным пытаньнем*, прычым, пытальнік ставіцца толькі ў тым выпадку, калі перад ускосным пытаньнем стаіць двукроп'е; калі-ж будзе стаяць коска, то пытальнік ня ставіцца. ( *Я ня мог зразумець, чаму сухое лісьце не загарэлася*).

Клічнік ставіцца:

Пасьля клічнага сказу (§ 1), пасьля зваротка (§ 4), пасьля выклічніка (§ 3).

Клічнік і пытальнік пры пэўнай пабудове сказу могуць мець значэньне пункту, пункту з коскай і коскі.

### 7. Трохкроп'е.

Трохкроп'е, або шматкроп'е, ставіцца:

Пры недаказе або перарыве мовы (§ 8, § 12), пры выражэньні моцнага пачуцьця (*Тхор!.. тхор! дзяржы яго!. дзяржы псяюху!.. Эх, ды й тхор-жа!.. Восьць, аж зьзяе!.. Я Кол.*).

### 8. Пункт з коскай.

Пункт з коскай ставіцца:

Паміж сузалежнымі сказамі (§ 9), паміж аднароднымі часьцінамі ў зьлітым сказе для больш выразнага чытаньня, асабліва тады, калі яго часьціны значна пашыраны. (*Падарожны расказаў людзям аб працы і вялікіх турботах, ім перанесеных; аб вышыні тых гор, якія ён бачыў; аб глебе ў тых краёх, надзвычайна ўрадлівай; пра зьвяроў і птушак, невядомых у нашым краі; пра людзей з непадобнай, інакшаю гаворкай*), паміж злучанымі сказамі (§ 8), у кругасказах (§ 13).

### 9. Пункт.

Пунктам аддзяляюцца адзін ад другога такія простыя і сустаўныя (складаныя) сказы, якія замыкаюць у сабе думку пэўную, зусім закончаную. (*Гарачы дзень. На полі душна. Прыціх той ветрык непаслушны, як-бы сваім аддаўся марам. Зацішак поля дыша варам і гоніць з твару поту рагі, і сохнуць губы ад тэй смагі. А жнейкі жнуць. У моры збожжа мільгае постаць іх прыгожа.* Я. Кол.).

**Задачка 3**. *Аб'ясьніць знакі прыпынку.*

Устань ты, старонка, родная маці! Годзі зімовага рабскага сну! Выйдзі на поле, на сенажаці, выйдзі спаткаці вясну! *Я. Куп.* За праўду, за шчасьце, за лепшую долю вязьміся, мой дружа, пастой; у крыўду ня дайся, свайго дабівайся, адвага хай будзе з табой! Хай горкія сьлёзы, што ў сьпеку, ў марозы льлюцца на беднай зямлі, дадуць табе, браце, сіл гора змагаці і ў сэрцы распаляць агні! *Я. Куп.* Ранюткі час. Нідзе нікога. Між дрэў зьвіваецца дарога, а па дарозе ты з кашом у лес шыбуеш ціхачом. *Я. Кол.* Весела пазірае ўвесну сонца на зямлю, як маці на сваё дзіця: загляне яно ўсюды — і ў бедную сялянскую хату, дзе так бедна й нявесела; і на пяшчаную горку, і ў лагчынку, дзе думаў сьнег знайсьці сабе прыпынак; і ў лес, і на луг —

усюды льлецца яго сьвет і цяпло. Будзіцца со сну наша зямліца; расьце на кусьце лісточак, і зелянее тады травіца; аджыў жучок і мутылёчак; шэра зязюля зранку і ўвечар яра кукуе ў садзе; павее ціхі і цёплы вечар; пойдзе скацінка ў стадзе. *Ст. Ул.* Што шуміш так неспакойна, жыцейка у полі? Ці ня чуеш, што пад градам зьляжаш ў роўным доле? *Я. Кол.* Лес! аб чым шумяць твае вяршыны? Лес! што шэпчаш, векавы? Браты! вялікая дарога чакае нас і родны край. *Я. Кол.* Эх ты!.. Толькі хвалішся... Глянуў — і то самлеў! — Дзяціны час!.. Я памятаю зімы прыход у нашым краю: стаіць над лесам шум маркотны, па небе хмары, як палотны, паўночны вецер расьцілае, і бель над далямі зьвісае. *Я. Кол.* Дзяўчынка абярнулася да бацькі, што нязграбна, памужчынску, кошкаўся каля печы, ды сказала: „Тата, кіньце!.. Я зраблю... я ведаю...“ Канец!.. Як проста гэта слова і мнагазначна, заўжды нова! Канец!.. Як многа разважаньня і засмучонага пытаньня ў гэтым простым, страшным слове! *Я. Кол.* — Пастой! А там што? — Там? Гармата. — Чаму-ж няма пры ёй салдата? — *Я. Кол.* Праца ўвесь сьвет ускарміла, праца нам шчасьце дае; працаю сілы прыроды к людзям у слугі ідуць, з ёю-жа ў сьвеце народы лепшае долі прыждуць. *Ц. Гарт.* Станьце, хмурынкі, над рубяжамі родных палеткаў, палёў! Каршун, падняўшыся высока над лугам, круціцца ў небе, выглядаючы сабе пажытак, і нудны крык яго голасна расплываецца над супакоеным лугам. Пілiп стары ў грамадзе старшынёю быў з паўвеку; ці ў працы, ці ў радзе — няма, як ён, чалавека; шчыры, добры і разумны, гаспадар прытым надзіва; вёў найлепей сход наш шумны, судзіў, радзіў справядліва. *Я. Луч.*

# § 14. Кароткі паўторны пытальнік.

*1) Пытаньні да тэксту.*

1) Калі ў канцы простага сказу ставіцца пункт? коска? кропка з коскай? двукроп'е? пытальнік? клічнік?

*Адказ.* У канцы простага сказу, які выражае сабою зусім закончаную думку і ня зьвязан цесна сэнсам з наступным сказам, ставіцца *пункт.*

Калі сказ выражае сабою пытаньне, то на канцы яго ставіцца *пытальнік.*

Калі ў сказе выражаецца покліч, загад, просьба, перасьцярога, страх, радасьць, зьдзіўленьне ці што падобнае, то ў канцы ставіцца *клічнік.*

Сказ, цесна зьвязаны сэнсам з наступным сказам, або злучаны з ім злучнікамі **і, ды** (=**і**) **а**, мае на кацы *коску.*

Сказ разьвіты, цесна зьвязаны сэнсам з наступным сказам, можа мець на канцы і *пункт з коскай.*

2) Калі звычайна ставіцца ў сказе працяжнік? Калі ўжываецца злучок?

3) Якімі знакамі прыпынку выдзяляецца зваротак?

4) Якімі знакамі прыпынку выдзяляецца прыдатак?

5) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца выклічнікі?

6) Якімі знакамі прыпынку выдзяляецца пабоччае слова?

7) Чым аддзяляюцца ў зьлітым сказе аднародныя суставы?

8) У якіх выпадках аднародныя сустаaы ў зьлітым сказе, зьвязаныя злучнікамі **і, ды** (=**і**), **або, ці, то, ні** і інш. могуць аддзяляцца адзін ад другога коскамі?

9) Якія яшчэ знакі прыпынку бываюць у зьлітым сказе?

10) Якімі знакамі прыпынку аддзяляецца дадана-залежны сказ?

11) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца дзеяпрыметныя і дзеяпрыслоўныя выражэньні (скарочаныя сказы)? Калі яны не выдзяляюцца?

12) Калі паміж злучанымі сказамі ставіцца коска? пункт з коскай? двукроп'е?

13) Чым выдзяляюцца пабочныя словы (сказ) у сказе?

14) Чым выдзяляецца чужаслоўе?

15) Які знак прыпынку ставіцца перад чужаслоўем?

16) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца словы аўтара, калі яны стаяць пасярэдзіне чужаслоўя?

17) Калі ставіцца трохкроп'е?

18) Якімі знакамі прыпынку выдзяляюцца суставы ў кругасказе?

*2) Пытаньні граматычнага зьместу.*

1) Як злучаецца большасьць слоў, што становяць склад сказу?

2) У чым выражаецца сувязь слоў *па дапасаваньню?*

3) У чым выражаецца сувязь слоў *па кіраваньню?*

*Адказ.* Словы, што складаюць сказ, могуць быць зьвязаны паміж сабою так:

а) адно слова ставіцца ў тым-жа родзе, ліку, і склоне або ў тым-жа ліку, у якім стаіць другое, да якога яно адносіцца; такая сувязь слоў называецца *дапасаваньнем;*

б) адно слова патрабуе пасьля сябе пэўнага склону другога слова; такая сувязь слоў называецца *кіраваньнем.* (Кіраваньне залежыць ад дзеяслова з імем).

4) Якія словы ў сказе не дапасуюцца і ня кіруюцца?

5) Якія сказы называюцца простымі?

6) Чым адрозьніваецца просты непашыраны сказ ад пашыранага?

7) У якой мове — пісьменнай ці вуснай — найчасьцей сустрачаюцца няпоўныя сказы? Чаму?

8) Што такое прыдатак-імя?

9) Чым выражаецца сувязь прыдатка з тым словам, да якога ён адносіцца?

10) Чым розьніцца прыдатак ад зваротка?

11) Які сказ называецца зьлітым?

12) Які сказ называецца сустаўным?

13) З злученьня якіх сказаў вытвараецца сустаўны (складаны) сказ?

14) Што называецца складана-залежным сказам?

15) З чаго складаецца сустаўны незалежна-злучаны сказ?

16) Якія сказы называюцца дадатнымі?

17) Якія сказы называюцца асноўнымі?

18) Якое значэньне мае дадатны сказ?

19) Як адносіцца дадатны сказ да асноўнага?

20) Па якім пытаньням пазнаюцца дадатныя сказы?

21) Як называюцца (якія бываюць) дадатныя сказы?

22) Што такое дзеясловная прымета? Чым яна розьніцца ад прыметы? Якія часы мае дзеясловная прымета?

23) З чаго складаецца дзеясловна-прыметнае выражэньне (скароч. сказ)? Якое значэньне ў сказе мае гэтае выражэньне?

24) Калі, у якіх разох можна замяніць дадатна-азначальны сказ дзеясловна-прыметным выражэньнем?

25) Што такое дзеясловнае прыслоўе? Чым яно розьніцца ад прыслоўя?

26) Што такое дзеясловна-прыслоўнае выражэньне? Якое значэньне ў сказе мае дзеясловна-прыслоўнае выражэньне? Якія дадатныя сказы могуць замяняцца дзеясловна-прыслоўнымі выражэньнямі?

27) Пры якой умове магчыма замена сказу акалічнасьці дзеясловна-прыслоўным выражэньнем?

28) Якія сказы называюцца ўмоўнымі?

29) Якія сказы называюцца ўступальнымі?

30) Як пазнаюцца ўмоўныя і ўступальныя сказы — па пытаньням ці па сэнсу?

31) Якія словы і сказы называюцца пабочнымі?

32) Што называецца чужаслоўем, або чужаслоўным сказам?

33) Што называецца кругасказам?

---

# Матар'ял для сьпісваньня й разбору.

## 1. ЛЕС НА ПАЛЕСЬСІ.

Верхам крыжастым узьняўшысь высока,
Хмурыя елкі панура шумяць;
Дзе-ні-дзе вынікне дуб адзінока,
Дзе-ні-дзе вязы, як вежы, стаяць...
Дзікае месца! Ўсё лес і балоты,
Купін мільёны, кусты лазьняка;
Боязна шэпчуць ў балоце чароты,
Глуха, трывожна шуміць асака.
Што? — Невядома для нашых вушэй:
Нетры лясныя спрадвеку хаваюць
Некую тайну ад вока людзей.
Чорная грэбля лягла срэдзь балота;
Хвораст, бярвеньне, як рэбры, тырчаць;
Грэбля паганая, гразь і плюхота...
Мова нядобрая ходзіць пра гаць.

*Я. Колас.*

## 2. NA PALEŚSI.

Daroha ŭvieś čas išła lesam. Les zredka razryvaŭsia nievialičkimi palankami, na jakich časami runieła žyta, a pa krajoch tam-siam papadalisia staradreviny-chvoi, pyšna razrosšysia na prastory, abo raźvisłyja taŭščeraznyja duby, jak zamožnyja haspadary; na hetych duboch palašuki-bortniki rabili cełyja pčolniki, zaciahnuŭšy tudy kala dziesiatku vullaŭ.

Palanki znoŭ źmianialisia lesam — to strojnym baravym, to nizkim bałotnym. Vysokija tonkija biareziny miašalisia z šerymi chvojami i prydavali charaktar markoty j zasmučeńnia ŭsiamu malunku. Les znoŭ rasstupaŭsja, dajučy miesca biazkonca vialikim bałotam. Bałoty ciahnulisia daloka-daloka pamiž lesu dy zamykalisia lesam, što čuć-čuć čarnieŭsia roŭnaju pałoskaju na dalokim niebaschile. Cełaje mora vysokaj paryžełaj travy zastałosia zimavać tut, bo siudy nia zojdzie ni hoviada, ni čałaviek z kasoju. Niaźličonyja kupiny, nizkarosłyja chvojki na ich, pačarniełyja karčahi daŭno admierłych dzieraviak raśli j hnili tut spradvieku. Siarod hetych kupin bliskučymi jstužkami pavivalisia časami pałoski vady — čystyja, hładkija, jak šlifovanaje škło. Nieviadoma, z jakich časoŭ stajali nad imi zasochłyja staryja sparachniełyja alešyny, jak śviečki, i markotna hladzieli ŭ nieba. Ad hetych bałot padychała niekim niavyraznym sumam; cichim žalem viejała ad hetych adnatonnych malunkaŭ paleskich kutkoŭ, dzie ŭsio-ž taki žyćcio stvarała svaje asobnyja formy i, nia hliedziačy na ŭsiu ŭbohaść, mieła svaju pavabnaść i charastvo, svoj tvar, poŭny pužlivaha zadumieńnia. Ale hetyja malunki tamili vočy i zasmučali serca, i mimavolna staraješšia znajści niešta takoje, na čym možna było b adpačyć i supakoicca.

*Taras Hušča.*

### 3. КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ.

Каліноўскі радзіўся ў Горадзеншчыне, у Ваўкавыскім павеце, у 1838 годзе. Бацька яго, дробны зьбяднелы шляхціц, ужо ня мог жыць з зямлі і зарабляў хлеб, як саматужнік-ткач. Сына ён аддаў у навуку. Кастусь скончыў пяціклясовую прогімназію ў Сьвіслачы і паступіў у Маскоўскі унівэрсытэт. За

ўдзел у студэнцкіх непарадках яго адтуль выключылі, і ён пасьля ўсялякіх труднасьцей залічыўся ў Пецярбурскі унівэрсытэт і скончыў яго, як кандыдат права. У унівэрсытэце Каліноўскі жыве звычайным жыцьцём студэнта-бедняка і зыходзіцца з рускімі падпольнымі народніцкімі гурткамі і рэволюцыйнымі польскімі організацыямі. Творы Гэрцэна і Бакуніна робяць вялікі ўплыў на яго сьветапагляд. У 1860 годзе Каліноўскі ўжо тыповы рэволюцыянэр-народнік таго часу. У 1862 годзе Каліноўскі ўжо на Беларусі. Зразумела, што тут ён адразу знаходзіць сабе месца ў лягеры чырвоных паўстанцаў і робіцца членам літоўскага патаемнага ўраду. Усю восень, пад імем Васіля Сьвіткі, апрануўшыся ў сялянскую вопратку, ходзіць ён па вёсках добра знаёмай яму Горадзеншчыны і вядзе пропаганду сярод сялянства. Паліцыя ганялася па яго сьлядох але злавіць не магла, бо сяляне хавалі яго. Ён быў сярод іх сваім чалавекам, імя яго было акружана ўсякімі легэндамі. Вандруючы па працоўных беларускіх вёсках, ён пераканаўся, што толькі тады паўстаньне можа мець пасьпех, калі селянін пойдзе яго рабіць. А селянін толькі тады пойдзе яго рабіць, калі яно будзе накіравана для здавальненьня яго інтарэсаў, а не інтарэсаў зямляўласьнікаў, і трэба якраз так пакіраваць паўстаньне. Гаворыць Каліноўскі з сялянствам у яго, роднай яму беларускай мове, у гэтай-жа мове друкуе ён свае адозвы і часопісі-проклямацыі да сялянства, падпісваючы іх псэўдонімам „Яська, гаспадар з-пад Вільні“. Літаратурны псэўдонім яго робіцца такім-жа популярным сярод сялянства, як і звычайнае імя. Энэргічны, бясстрашны, поўны энтузыязму й веры ў перамогу беларускіх працоўных мас, ён

быў найяскравейшаю асобаю паўстаньня на Баларусі. Таварышамі і памочнікамі Кастуся Каліноўскага былі людзі, падобныя да яго. З іх нам вядомы—Т. Дылеўскі, па паходжаньні дробны шляхціц, акуратны выканаўца плянаў Кастуся, чалавек вялікай вытрыманасьці і дысцыпліны; паручнік рускай службы, добры организатар і агітатар Малахоўскі настаўнік па профэсіі, пропагандысты сярод інтэлігэнцыі Пшыбыльскі і інш.

Віленскі патаемны ўрад, кіруючы паўстаньнем на Беларусі, складаўся з 5 асоб: капітана рускай службы Зьвіждоўскага, Кастуся Каліноўскега, Малахоўскага, чыгуншчыка Вярыгі і доктара Длускага. Прадстаўніком варшаўскага ўраду на Літве і Беларусі быў Дзюлёран. Большасьць ураду складаецца з чырвоных. Дзюлёран—выразны белы. Дзюлёран пачаў пасылаць у Варшаву даносы на чырвоны ўрад. Цэнтральны ўрад рашыў захапіць уладу на Беларусі ў белыя рукі. Пастунова чырвоныя часткаю выціскаюцца з віленскага комітэту (Каліноўскі, Малахоўскі), часткаю выбываюць самі па сабе (Зьвіждоўскі) і замяняюцца белымі. Каліноўскі з таварышамі, каб падмацавацца, уступаюць у зносіны з чырвонаю групаю Варшаўскага цэнтральнага ўраду.

У 1863 годзе выбухае паўстаньне на Беларусі. К. Каліноўскі прымае шчыры ўдзел у паўстаньні і становіцца кіраўніком чырвоных паўстанцаў — сялян. Царскі ўрад, жадаючы як найхутчэй задушыць гэта паўстаньне, пасылае на Беларусь вядомага вешальніка „вернага роса“, Міхайлу Мураўёва. Мураўёў, дзякуючы расійскім войскам, нішчыць паўстанцкія атрады. Каліноўскі прымушан быў хавацца, каб не папасьці ў рукі маскоўскіх катаў-чыноўнікаў. Цяжка прыхо-

цзілася Каліноўскаму. Што ні тыдзень прыходзілася яму мяняць сваё прозьвішча, што ні дзень — сваю кватэру і вопратку. Усе спробы злавіць Каліноўскага канчаліся няўдачаю, бо сялянства і гарадзкая бедната давалі яму прыпынак. Каліноўскі чакаў вясны, каб зноў распачаць паўстаньне працоўных на Беларусі.

Але гэтую надзею яму ня прышлося ажыцьцёвіць. Каліноўскі быў арыштаваны ў 1864 годзе, 7 студзеня у Вільні, у Сьвятаянскіх мурох, на кватэры настаўніка.

Некалькі месяцаў пратаміўся ў турме чырвоны дыктатар, чакаючы сьмяротнай кары.

Яго мучылі выпытамі і пагрозамі, але зламаць не маглі. Ён заставаўся цьвёрдым, поўным веры ў сваю справу. З турмы яму ўдалося напісаць да сваіх прыяцеляў і прыхільнікаў два лісты: адзін да сваёй бацькаўшчыны — Беларусі, другі — да беларускага народу. Для нас мае асаблівую цікавасьць другі ліст, каторы мы тут і прыводзім:

„Беларусы, браты мае родныя! З-пад шыбельніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас і, можа, астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль згінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, па шчырасьці маё слова перадсьмертнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Няма-ж, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады толькі ён можа быць у радзе, жыць у дастатках, і тагды толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, узбагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як

дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзіва ня йдзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, ня будзе багацьця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу. Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбельніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе.

Яська гаспадар з-пад Вільні".

У красавіку 1864 году адбылася кара сьмерцю чырвонага дыктатара, каторага сялянская маса назвала „каралём Літвы", разумеючы пад Літвою беларускія абшары. Сёмага (20) красавіка 1864 году ў дзень кары Каліноўскага была ясная халодная раніца. Каліноўскі шоў на кару цвёрдаю, сьмелаю ступою. Прышоўшы на Лукіскі пляц, ён стаў тварам да шыбельніцы і толькі часам кідаў погляд на далёкі натоўп.

## 4. NAŠYJA HAŠCINCY.

Jość štoś niazvyčajna pryhožaje ŭ hetych pryvolnych staraśvieckich haścincah na Biełarusi. Šyroka j razmašysta pralahajuć jany ad vioski da vioski, ad miastečak da haradoŭ, złučajučy paviety j całyja krainy. Kolki charastva j čaroŭnaha pryvabu ŭ sinich ich dalach! Kolki novych malunkaŭ, śviežych motyvaŭ i tajemnych zdareńniaŭ abiacajuć jany vačom i sercu padarožnaha! Z jakoju nadzvyčajnaju siłaju paryvajuć jany da siabie, i jak mocna dakranajucca da strun twaje dušy! Jakaja-ž siła załožana ŭ hetych prastorach nieabnimnych rodnych šlachoŭ, i jakuju ŭładu majuć jany

nad taboju, nespakojny, viečna zakłapočany padarožny?! Ci nia hetaja, nikim niavykazanaja kazka ich, jakaja składałasia doŭhimi viakami dy zapisvałasia ahniavymi literami ludzkoje kryŭdy ŭ sercach miljonaŭ padarožnych, što jšli j jechali pa hetych haśćincach i dumali svaje dumki? Ci nie jana, heta letapiś časoŭ, tak hłyboka zapadaje ŭ dušu, kab adbicca ŭ joj, znajści svoj peŭny vobraz i formu dy hroznaju małankaju žachnuć hetuju strašnuju ciemru, što źvisła nad krajem? A moža heta tajemnaja j strašnaja biaźmiežnaść błukańnia pa świecie, dzie trudna vyznačyć pačatak i kaniec, symbolami jakich źjaŭlajucca hetyja haścincy, aviavaje dušu tvaju niavyraznym chvalavańniem dy kliča jaje źlicca z biazskrajnaściu ziamli? Ci to — niajasny adbitak viečnaha niezdavalnieńnia ludzkoha, tajemny poklič da šukańnia inšych form žyćcia, nieśviadomaje imknieńnie da lepšaje doli? Ci to — paryvańnie dušy raźbić niekija hranicy, kab vyrvacca na biaźmiežnyja prastory?...

Ech, haścincy, rodnyja haścincy! Chto pierakaža nam vašy kazki, razhadaje dumki, naźbiranyja j napisanyja na hetych kamloch vašych prysadaŭ?!

*Taras Hušča.*

## 5. ШТО ТАКОЕ ПЛОДАЗЬМЕН.

Каму з нас ня прыходзілася чуць ад старых людзей, што даўней ураджаі былі шмат лепшыя й большыя, чымся цяпер. І гэта праўда. Сама навука нават гэта самае нам паказвае. Здаўна ўжо людзі вучоныя рабілі ўсялякія спробы з засевамі і перакаваліся вось у чым.

Калі праз доўгі час, праз колькі год, сеяць на адным і тым самым месцы адну і тую самую зба-

жыну, то як не вырабляй зямлі, як не давай гною, а збажына гэта пачне даваць штораз слабейшы ўраджай і меншы ўмалот.

Гэтак рабілі пробу ў адным дварэ на Украіне, дзе праз сорак год сеялі на адным і тым самым кавалку зямлі пшаніцу. Зямлю выраблялі і гнаілі кожны год аднолькава. І што-ж вышла? Калі першыя гадоў дваццаць намалочвалі пшаніцы з гэтага кавалку пудоў 80, пасьля з яго мелі ўсяго 60 пудоў, а нарэшце толькі 50. Само сабой, каб сеялі яшчэ далей гэтак сама, то ўраджай яшчэ-б паменшыўся.

Ня менш яшчэ цікаўную практыку паказвае нам Віленскае пробнае поле з жытам. Там засявалі адзін і той самы кавалак поля пры аднолькавай з году ў год вырабцы зямлі праз 9 гадоў. У першым годзе намалацілі жыта з гэтага кавалку поля 119 пудоў, праз тры гады было ўжо ўмалоту ня больш, як 75 пудоў, а яшчэ праз тры гады — ўсяго толькі 38 пудоў.

Як бачыце, розьніца ўмалоту паміж першым трохлецьцем і апошнім — не маленькая: 119 і 38 пудоў! У чым-жа прычына гэткай розьніцы? А вось разгледзім.

Усе нашы палёвыя расьліны цягнуць з зямлі сваімі карэньчыкамі тры найважнейшыя і найпатрабнейшыя для свайго ўзросту пажывы: фосфар, калі і азот. Толькі тады зямля й будзе добра радзіць, калі ў ёй ёсьць заўсёды дастатак гэткага корму для расьлін. Трэба толькі ведаць і памятаць нашаму хлебаробу, што ня кожная расьліна выцягвае для сябе з зямлі адзін і той самы корм.

Жыта, авёс, ячмень і да г. п. — так званыя злакі — забіраюць з зямлі найболш азот (салетру) і фосфар.

Бульба, буракі, морква і іншыя падобныя, так званыя карня-плоды — жывяцца найбольш каліем (паташом), мала ўжываючы азоту й фосфару.

Урэшце, расьліны, так званыя матыльковыя, як гарох, боб, выка, канюшына і да г. п., найбольш забіраюць з зямлі фосфар і калі (паташ), а зусім не чапаюць грунтовага азоту, бо маюць такі ўжо свой склад у росьце, што патрэбны сабе азот цягнуць з паветра.

Значыцца, адны расьліны ласы на азот, другія — на паташ, іншыя — на фосфар і калі.

Цяпер лёгка зразумець, што калі мы пачнем сеяць на адным і тым самым месцы аднолькавую расьліну, г. зн. такую, каторая цягне з зямлі адну і тую самую пажыву для сябе, то хоць-бы зямля была найлепшая, усё-ж такі яна скора выпалашчацца з якого колечы корму.

Гэтак, калі мы будзем сеяць на адным месцы ўсьцяж толькі злакі, то яны скора выцягнуць з зямлі ўвесь азот і фосфар (а паташ будзе там валяцца бяз ніякай карысьці), і ці то жыта, ці авёс, ці іншыя якія злакі радзіць перастануць.

Тое самае выйдзе, калі-б пачалі мы садзіць усьцяж на адным месцы бульбу ці іншыя карняплоды: найлепшая зямля ў скорасьці так зьбяднее на паташ, што ўраджай будзе зусім слабы, хоць сама зямля будзе вельмі багата на азот і фосфар.

Апрача таго, сеючы аднаго складу расьліны ўсьцяж на адным месцы праз колькі год, ня толькі

што зямля выпалашчацца з таго ці іншага корму, але могуць быць і другія, ня меншыя, калі ня большыя, беды і страты ў засевах.

Вядомая рэч, што кожная расьліна мае сваіх асобных ворагаў — шкоднікаў. Прыкладам, на жыта нападаюць жытні рабак, гэсэнская муха, пільшчак і да г. п. На бульбу — драцяногі рабак, бульбяная гніль і іншыя.

Дык калі завядзецца на полі ў якой-колечы збажыне шкоднік, а мы праз колькі год на тым самым месцы будзем сеяць ці садзіць тую самую расьліну, на каторую якраз гэты шкоднік ласы і толькі ёй жывіцця, то гэтым мы так дагодзім свайму ворагу, што ён гатоў настолькі распладзіцца, што можа зьнішчыць увесь засеў.

Зусім інакшае, асаблівейшае маюць значэньне для грунту ўсе матыльковыя расьліны, як канюшына, боб, выка, гарох і г. д.

Усе яны адзначаюцца тым, што карэньні свае запушчаюць у глыб зямлі на аршыны два, а то і болей, і такім парадкам цягнуць з зямлі пажыву сабе тую, каторую не дастануць сваімі кароткімі карэньчыкамі іншыя расьліны, як жыта, пшаніца авёс і г. д.

Апрача таго, на карэньчыках бабовых расьлін нарастаюць такія гузочкі, у каторых плодзяцца маленькія жывучкі (бактэрыі), вось гэтыя бактэрыі і маюць у сабе тую асаблівасьць, што, жывучы ў сваіх гузочках на карэньнях матыльковых расьлін, захопліваюць з паветра азот і перадаюць яго, колькі трэба, расьлінам. Мала таго, калі з поля зьбярэцца засеў, то яшчэ застаецца азот у сьцябле і карэньнях

Матыльковыя расьліны, значыцца маюць у гаспадарцы вялікае значэньне:

1) выцягваюць корм з глыбі зямлі, дзе йнакш ён прапаў-бы без карысьці;

2) ня толькі не забіраюць азоту, які быў у запасе ў грунце, але яшчэ самі яго сьцягваюць з паветра і частку пакідаюць пасьля сябе ў ральлі.

Лубін, напрыклад, каторы таксама прыналежыць да матыльковых расьлін, дзеля таго толькі найбольш і сеюць, што заараўшы яго, мы заворваем разам з ім і той корм, каторага ён насмактаўся з глыбі зямлі, і той азот, каторы ён сабраў з паветра пад верхнюю скібу; адтуль ужо могуць карыстаць з гэтага і расьліны з кароткімі карэньчыкамі, як жыта, авёс і іншыя.

Цяпер хіба будзе ясна і зразумела, чаму нельга сеяць на адным і тым самым месцы ўсьцяж праз колькі год аднакавае збожжа, а трэба яго чарадаваць.

І так: зернавыя пасевы, як жыта, пшаніца, авёс і другія — бяруць з зямлі найбольш азоту й фосфару, а мала паташу.

Зямляплоды — бульба, буракі, морква і г. д. — якраз наадварот: выцягваюць шмат паташу, а затое мала ўжываюць азоту й фосфару.

Пасьля зямляплодаў выпадае сеяць зноў зернавое дабро; гэтак і робяць: сеюць ярыну, бо хоць паташ з зямлі пасьля зямляплодаў будзе выпаласканы, але ён для ярыны ня надта і патрэбны, а фосфару і азоту, каторых зямляплоды мала ўжывалі для сябе, праз гэты час столькі ўзапасіцца ў зямлі, што іх якраз хопіць для ярыны.

А скуль-жа ўзяўся гэты новы прыбытак азоту й фосфару?

Сельска-гаспадарская практыка й навука паказалі нам, што калі каторага году пасеянае дабро мала спажывае дла сябе якога-колечы корму з зямлі, то яго там прыбывае, дзякуючы розным прычынам: паветру, клімату і г. д., а таксама — складу самой нашай зямлі, дзе капошацца мільярды розных бактэрый-жывучак, рабакоў, кузурак і іншых памочнікаў зямляроба. Памочнікамі нашымі дзеля таго іх можна назваць, што ўсе яны, расплоджваючыся, жывучы і ўміраючы, узбагачаюць зямлю markup рознымі, патрэбнымі для ўзросту расьлін кормамі.

Вось, значыцца, каб зямлю ня пустошыць і мець пэўныя ўраджаі, нам і трэба чаргаваць год за годам свае расьліны так, каб адны другім не парашкаджалі, г. зн., каб сёлетняя расьліна ня выцягвала залішне таго корму з зямлі, які патрэбны будзе для расьліны на будучы год.

Разумна і ўмела нарыхтаванае гэткае чарадаваньне расьлін і называецца *плодазьменам*.

Плодазьмены бываюць розныя: 4-польныя, 5, 6, 7 і г. д.; бываюць нават 12-польныя і болей. Усё залежыць ад таго, на колькі палеткаў падзелена ўся ворная зямля.

Даваць які-колечы агульны рэцэпт ці модэль, якім павінен быць плодазьмен, зразумела, ніводзін мудрагель ня можа, бо ўсё гэта залежыць ад мясцовых варункаў, г. зн.: якая і колькі зямлі, колькі ёсьць сена, з чаго найлепшы можа быць даход на месцы, ці далёка ад гандлёвага ці жалезнадарожнага пункту і г. д. і д. г. п.

Толькі добра ведаючы ўсе гэтыя варункі, можна акуратна параіць, як нарыхтаваць новую, больш даходную гаспадарку пры помачы плодазьмену.

## 6. DUDAR.

Try rodnyja braty mieli adnaki rozum, adnakija myśli j dumki. Tolki nie adnakaja dola spatkała kožnaha brata ŭ žyćci. Choć usim bratom nia vielmi sołatka žyłosia ale Mienšamu Bratu vypała samaja horkaja dola. Prysudziła jana jamu samy horšy kutok, kinuła miž bałot i mchoŭ. Kiepska žyłosia Mienšamu Bratu. Płakaŭ jon, i nichto nia bačyŭ jaho śloz ci nie chacieŭ bačyć. Špiavaŭ jon i pieśni, doŭhija, nudnyja pieśni, pieśni niadoli. Havaryŭ i kazki, i tolki ŭ kazkach jon bačyŭ siabie ščaślivym. Jaho ślozy kapali razam z rasoj na ziamlu. Hreła sonca, i ślozy, źmiašanyja z rasoj, padymalisia k niebu i adtul kidalisia nazad, na ziamlu, čystymi kapielkami. I tak jany viečna kružacca z ziamli na nieba, z nieba na ziamlu. I nikoli nia vysychali vočy Mienšaha Brata. Toŭsty vysoki les adzin tolki słuchaŭ jaho pieśni i sam pamahaŭ jamu śpiavać svaim doŭhim šumam. Vychodziŭ Mienšy Brat u viečary na dvor, braŭ svaju dudku, sadziŭsia na pryźbie svajoj chaty i hraŭ. Miesiačyk kaciŭsia pa niebie, płyli biełyja chmarki. Zorki, jak saramlivyja dziaŭčatki, pazirali na ziamlu praz biełyja tonkija chmarki i słuchali Mienšaha Brata, jak hraŭ jon na dudcy. I cicha było na sercy, jak cicha była sama nočka. I dumki, jak tyja chmarki, lohka radzilisia ŭ sercy j płyli jany nieviadoma kudy, daloka-daloka, umirali cicha-cicha, jak pavoli rastavali j biełyja chmarki ŭ niebie. Tolki puhač i sava złym krykam svaim budzili ad ščaślivych dumak Mienšaha Brata. Jon pračynaŭsia, jak ad snu, i dumki druhija, dumki niadoli, jak nažom, kałoli jamu ŭ serca.

Ni dumak, ni piesień jaho nichto nia znaŭ i nia čuŭ ci nie chacieŭ znać i čuć. Jaho žalba prapadała, jak prapadaŭ tuman z uschodam sonca, što visieŭ nad bałotam. Raźbiraŭ jaho tolki adzin les, i lesŭ adkryvaŭ Mienšy Brat svaje dumki, bo ludzi śmiajalisia z jaho słoŭ i piesień. A z lesam

žyłosia valniej: les nie daviŭ jaho, nia hnaŭ, jak hnali j davili jaho ludzi. I Mienšy Brat zrabiŭsia cichi, spakojny, aściarožny i nikomu nie adkryvaŭ svajoj dušy. Mienšy Brat adzičeŭ. Les i bałoty adharadzili jaho ad usiaho śvietu.

Prašło mnoha času.

Usie try braty sustrelisia. Starejšy Brat paziraŭ śmieła. Jon byŭ u botach, u kramnych nahavicach i kašuli, a pavierch kašuli — kamizelka. Havaryŭ Starejšy Brat skora, mova jaho była admienna, i Mienšy Brat ledźvie moh raźbirać jaho.

Na Siarednim Bracie była vysokaja šapka, šyrokija biełyja nahavicy, boty. U zuboch — kruhłaja lulka na karotkim cybuku. Havaryŭ jon mała.

Mienšy Brat vyhladaŭ starejšym za ich abodvuch. Barada jaho była sivaja, ruki dryžali. Sam jon byŭ tonki, chudy. Jamu jakby brydka było pierad bratami, što na im sivaja rvanaja śvitka, kruhłaja šapka-kučomka, na nahach łapci, a karavyja anučy abvivali chudyja nohi.

Havaryli braty ab usim: ab horkaj svajoj doli, ab praŭdzie, ab žyćci.

Mienšy Brat maŭčaŭ. Jamu nie davali havaryć tej movaj, katoraj havaryŭ jon sam z svaimi dumkami, z lesam. Z jaho movy śmiajalisia starejšyja braty.

— Havary ty tak, jak havaru ja, — kaža Starejšy Brat, — i nie strachaj ty movu ludzkuju. Tvaja mova — niamaja mova; što skazaŭ ty śvietu na svajoj movie? Dzie pieśni tvaje? Chto čytaŭ tvaje dumki, pracu twajho rozumu i serca? Dzie pieśniary tvaje? Čym ty pachvališsia?

— Lepšaj movy ja nia čuŭ. Havaru, jak znaju. Brat! Chto doŭha maŭčaŭ, tamu chočacca mnoha havaryć. A ja maŭčaŭ usio žyćcio, i mnie chočacca havaryć: nia adbiraj ty

ad mianie choć hetaha prava. Spytajsia ŭ chvajovych kryžoŭ. Jany tabie skažuć pra maje dumki. Maje dnmki napisany ślaźmi, a ślozy razam z dumkami raźlilisia ŭ rečcy. Viecier—piaśniar moj. Hora i bol radzili maje pieśni, i słuchaŭ ich les. Spytajsia lesu — jon skaža pra pieśni maje.

Skažu tabie kazku. Pasadziŭ pan dudara ŭ hłybokim sklepie za kamiennyja ścieny. Kaža jamu pan: „hraj mnie na dudcy, kab ja čuŭ tvaje pieśni i tady ja pazvolu śpiavać ludziam pieśni, daruju prava raskazać śvietu pra dumki tvaje“.

Praz kamiennyja ścieny nia vybiłasia pieśnia dudara i nichto jaho nie pačuŭ. „Ty pawinien maŭčać! — kaža pan dudaru, — bo pieśnia tvaja ničoha nie skazała majmu sercu. Niachaj astajucca ŭ tabie tvaje dumki i pieśni“. I dudara z taho času słuchała pustoje pole, bałota j les.

Brat! usie my šukali ščaścia, tolki jšli my nie adnakimi darohami. Tabie choć trochi śviaciła sonca, a ja jšoŭ, jak u nočy. Zapalim-ža łučyny i pojdziem jašče šukać doli, budziem pamahać adzin adnamu, a jak zbłudzić chto z nas, padamo jamu hołas. Nia śmiejciesia-ž, braty, i nie adbirajcie ŭ mianie taho, čaho nichto nia maje prava adbirać“.

I ślozy bliščali na vačoch Mienšaha Brata *).

*Taras Hušča.*

---

*) Mienšy Brat — biełarus u carskija časy. Red.

# ЗЬМЕСТ.

**Матар'ял для сьпісваньня й дыктовак.**



**II. Знакі прыпынку.**



**Матар'ял для сьпісваньня й разбору.**

